

# КАРМЭН

Πᾶσα γυνὴ χόλος᾽ ἔστιν ἔχει δ᾽ἀγαθὰς δύο᾽ ὥρας,
Τὴν μίαν ἐν θαλάμῳ, τὴν μίαν ἐν θανάτῳ.[1]

ΠΑΛΛΑΔΑΣ

## I

Я заўсёды падазраваў, што географы памыляюцца, калі сцвярджаюць, што бітва пры Мундзе адбылася ў краі пуніцкіх бастулаў, каля сучаснай Монды, за два лье на поўнач ад Марбэлы. Сам я, грунтуючыся на тэксце *Bellum Hispaniense*[2] невядомага аўтара і на некаторых звестках, сабраных у выдатнай бібліятэцы герцага Асунскага, меркаваў, што тое памятнае месца, дзе Цэзар, апошні раз паставіўшы на карту ўсё, разбіў прыхільнікаў рэспублікі, трэба шукаць у наваколлях Мантылы. На пачатку восені 1830 года я прыехаў у Андалусію і адбыў там даволі працяглае падарожжа, каб высветліць некаторыя дэталі, адносна якіх у мяне яшчэ не было канчатковай пэўнасці. Спадзяюся, што даклад, які я бліжэйшым часам надрукую, не пакіне ніякіх сумненняў ва ўсіх сумленных археолагаў. А пакуль, дзякуючы майму даследаванню, будзе вывучацца гэтая геаграфічная праблема, якая бянтэжыць навуковы свет Еўропы, я раскажу вам невялічкую гісторыю; яна не мае ніякага дачынення да вырашэння найцікавейшага пытання аб месцы, дзе знаходзілася Мунда.

Я наняў у Кордаве праваднікa і двух коней і рушыў у дарогу са сціплым пакункам, што складаўся з *Каментарыяў*

---

[1] Кожная жанчына — горкая жоўць, але (у жыцці яе) ёсць дзве добрыя часіны — адна, калі яна кахае, і другая, калі памірае. Палад *(ст.-гр.)*.
[2] Іспанская вайна *(лац.)*.

*Цэзара* і пары кашуль. Аднаго дня, блукаючы па ўзвышанай частцы Качэнскай раўніны, знясілены стомай, абпалены спякотным сонцам, я паміраў ад смагі і кляў ад шчырага сэрца Цэзара і Пампеевых сыноў, калі раптам убачыў даволі далёка ад сцежкі, па якой я ішоў, зялёны лужок, зарослы чаротам і трыснягом. Значыць, паблізу мусіла быць крыніца. І праўда, падышоўшы бліжэй, я ўбачыў, што лужок быў зусім не лужок, а балота, у якім хавалася ручаінка, што выцякала, як здавалася, з вузкай гарлавіны паміж двух высокіх адгор'яў сьеры Кабра. Я вырашыў, што, пайшоўшы супраць вады, я дабяруся да месца, дзе вада будзе свяжэйшая, дзе будзе меней жаб і п'явак і дзе сярод скалаў знойдзецца хоць бы лапік ценю. Пры ўваходзе ў гарлавіну мой конь заржаў, і нейкі іншы конь, якога я не бачыў, адразу адказаў яму. Не паспеў я зрабіць сотні крокаў, як гарлавіна нечакана расшырылася і перада мною адкрылася вялікая круглая западзіна, з усіх бакоў прыцененая высокімі стромымі скаламі. Немагчыма было знайсці больш прыдатнага месца для прыпыну стомленага падарожніка. Ля падножжа скалаў крынічка імкліва падала ў невялікі ставок, усцелены белым, як снег, пяском. Пяць-шэсць зялёных дубоў-прыгажуноў, заўсёды схаваных ад ветру і напоеных крынічкаю, раслі над яе берагамі і закрывалі яе густой лістотай; а вакол стаўка расла мяккая раскошная трава — лепшае пасцелі не знойдзеш ні ў адным заездзе за дзесяць льё ў наваколлі.

Я, на жаль, не быў першы, хто адкрыў гэты прыгожы куток. Там ужо адпачываў нейкі чалавек, і калі я паявіўся, ён, відаць, спаў. Абуджаны ржаннем, ён устаў і падышоў да свайго каня, які, пакуль гаспадар спаў, добра папасвіўся на навакольнай траўцы. То быў малады дзяцюк, невысокі ростам, але дужы з выгляду, з гордым і змрочным позіркам. Колер яго твару, які раней мог быць і прыгожы, зрабіўся пад няшчадным сонцам цямнейшы за валасы. У адной руцэ ён трымаў за аброць каня, у другой — медзяны мушкетон. Прызнаюся шчыра, што мушкетон і дзікае аблічча незнаёмага спачатку крыху мяне збянтэжылі, але я ўжо не верыў у злодзеяў, шмат пра іх чуўшы і ніколі ніводнага не сустрэўшы. Да таго ж я ўжо столькі сустракаў сумленных арандатараў, якія звычайна едуць на рынак, абвесіўшыся зброяй, што, убачыўшы мушкетон, я не меў ніякіх падстаў сумнявацца ў прыстойнасці незнаёмага. І пасля, казаў я сам сабе, нашто яму мае кашулі і Каментарыі эльзевіраўскага выдання? Таму я прывітаў чалавека з мушкетонам, прыязна ківў-

нуўшы яму галавою, і спытаўся, усміхнуўшыся, ці я не патурбаваў яго сон. Нічога не адказаўшы, ён уважліва агледзеў мяне з ног да галавы, пасля, нібы задаволены, ён гэтак жа пільна прыгледзеўся да майго праваднікa, які якраз падышоў. Я заўважыў, як той збялеў і спыніўся, відавочна, спалохаўшыся. «Благая сустрэча!» — сказаў я сабе, але дзеля асцярогі пастараўся прыхаваць свой непакой. Я саскочыў на зямлю, загадаў праваднiку раскілзаць каня і, укленчыўшы на беразе раўчука, апусціў у ваду рукі і твар. Пасля я ўдосыць напіўся, лёгшы на жывот, як благія Гедэонавы ваяўнікі.

Тым часам я назіраў за праваднiком і незнаёмым. Першы набліжаўся вельмі неахвотна, другі ж, здаецца, не меў да нас ніякіх нядобрых намераў, бо адпусціў каня, а мушкетон, што ён дагэтуль трымаў наперавес, быў цяпер апушчаны ўніз.

Палічыўшы нявартым крыўдзіцца на тое, што маёй персоне не было, відаць, аддадзена вялікае ўвагі, я лёг, выцягнуўшыся, на траву і спытаўся без цырымоній у чалавека з мушкетонам, ці няма ў яго крэсіва. Сказаўшы гэта, я дастаў сваю скрынку з цыгарамі. Незнаёмы нічога не адказаў, пашукаў у кішэні, выняў крэсіва і даў мне агню. Ён відавочна лагаднеў, бо сеў насупраць мяне, не выпускаючы, аднак, з рук сваёй зброі. Запаліўшы цыгару, я выбраў з тых, што ў мяне яшчэ заставаліся, найлепшую і спытаўся ў яго, ці ён курыць.

— Так, сеньёр,— адказаў ён.

Гэта былі першыя словы, што я ад яго пачуў, і я заўважыў, што ён вымаўляў «с» не па-андалуску[1], з чаго я зрабіў выснову, што ён, як і я, быў падарожнік, хіба што менш цікаўны да археалогіі.

— Вось гэтая будзе добрая,— сказаў я і падаў яму сапраўдную гаванскую рэгалію.

Ён ледзь заўважна кіўнуў галавой, запаліў сваю цыгару ад маёй, падзякаваў мне, кіўнуўшы яшчэ раз, і пачаў курыць з відавочнай асалодаю.

— Ах! — уздыхнуў ён, выпускаючы павольна першы пацяг праз рот і ноздры.— Як даўно я не курыў!

У Іспаніі частаванне цыгарамі — знак да ўсталявання прыязных адносінаў, як частаванне хлебам і соллю на Ўсходзе. Мой размоўца аказаўся больш гаваркі, чым я чакаў.

---

[1] Андалусцы вымаўляюць «s» з прыдыханнем, гэтак жа, як «c» і «z», якія іспанцы вымаўляюць як англійскае «th». Па адным толькі слове «Señor» можна пазнаць андалусца *(аўт.)*.

Зрэшты, хоць ён і назваўся жыхаром наваколля Мантылы, здавалася, што ён даволі дрэнна ведае тутэйшыя мясціны. Ён не ведаў, як завецца цудоўная даліна, дзе мы знаходзіліся, ён не мог назваць ніводнага навакольнага паселішча. Урэшце, калі я спытаўся ў яго, ці не бачыў ён у гэтых мясцінах разбураных муроў, аскепкаў шырокай дахоўкі з закраінамі, каменных статуй, ён прызнаўся, што ніколі не звяртаў на гэткія рэчы ўвагі. Затое ён аказаўся добрым знаўцам коней. Ён зганіў майго, што мяне не здзівіла, пасля падрабязна пералічыў радавод свайго, які паходзіў са славутага Кордаўскага завода. Гэта была сапраўды шляхетная жывёліна, такая вынослівая, што, як сцвярджаў гаспадар, прабегла аднойчы трыццаць лье за адзін дзень наўзгалоп і рыссю. Сказаўшы гэта, незнаёмы раптам спыніўся, быццам схамянуўшыся і зазлаваўшы на сябе, што сказаў лішняе. Пасля, трохі сумеўшыся, дадаў: «Я вельмі спяшаўся ў Кордаву, каб хадайнічаць у адной судовай справе...» Пры гэтым ён паглядзеў на майго праваднікa Антоніо, і той апусціў вочы.

Прахалода і крынічка настолькі мяне зачаравалі, што я згадаў пра некалькі лустак выдатнай вяндліны, якія мае мантыльскія сябры паклалі ў торбу праваднiку. Я загадаў іх прынесці і запрасіў незнаёмага падсілкавацца разам са мною. Калі ён ужо даўно не курыў, дык мне здалося верагодным, што ён як найменей два дні нічога не еў. Ён накінуўся на ежу, як згаладалы воўк. Я падумаў, што сустрэча са мною была спасланая гэтаму небараку Божым правідам. Што да майго праваднікa, дык ён еў мала, піў яшчэ меней і не гаварыў увогуле, хоць на пачатку падарожжа ён падаўся мне неадчэпным балбатуном. Здавалася, прысутнасць нашага госця бянтэжыла яго, між імі была нейкая насцярожанасць, прычыны якой я ніяк не мог разгадаць.

Ужо зніклі апошнія крышачкі хлеба і вяндліны, мы выкурылі па другой цыгары. Я загадаў праваднiку закілзаць коней і збіраўся развітацца з маім новым прыяцелем, калі раптам ён спытаўся ў мяне, дзе я збіраюся заначаваць.

Не паспеўшы заўважыць знакаў, што падаваў мне праваднік, я адказаў, што іду ў бок Воронінай венты.

— Дрэнны прыстанак для такога чалавека, як вы, пане... Я таксама кіруюся туды, і калі вы дазволіце, мы паедзем разам.

— З вялікай ахвотай,— адказаў я, скочыўшы ў сядло.

Праваднік, трымаючы стрэмя, зрабіў мне новы знак вачмі. У адказ я паціснуў плячыма, нібы запэўніваючы яго, што мяне нічога не трывожыць, і мы рушылі ў дарогу.

Таямнічыя знакі Антоніо, яго непакой, некалькі словаў, што міжволі вырваліся ў незнаёмага, асабліва пра тыя трыццаць лье язды наўзгалоп і не надта ўдалае ім апраўданне, ужо склалі ў мяне нейкае ўяўленне пра майго спадарожніка. Я не сумняваўся, што маю справу з кантрабандыстам, а можа, і са злодзеем. А што мне да таго? Я дастаткова добра ведаў натуру іспанцаў і таму быў пэўны, што мне не было прычыны баяцца чалавека, з якім я еў і курыў. Сама яго прысутнасць была ўжо надзейнай аховай ад любой нядобрай сустрэчы. Да таго ж мяне вельмі цешыла магчымасць пазнаёміцца з сапраўдным бандытам. Не кожны ж дзень іх бачыш, дый ёсць нават нешта прывабнае ў тым, што знаходзішся побач з небяспечным чалавекам, асабліва калі адчуваеш, што ён рахманы і ўтаймаваны.

Я спадзяваўся паступова схіліць незнаёмага на даверлівую размову і, нягледзячы на мігі праваднiка, павярнуў гаворку на злодзеяў і бандытаў. Вядома ж, я гаварыў пра іх з павагай. У тыя часы ў Андалусіі славіўся сваімі подзвігамі бандыт, які зваўся Хасэ-Марыя. «А што, калі побач са мною Хасэ-Марыя?» — думаў я... Я расказаў усе, што я ведаў, гісторыі пра гэтага героя, усяляк яго выхваляючы, і выказаў адкрыта маё захапленне яго адвагай і шчодрасцю.

— Хасэ-Марыя проста блазан,— стрымана адказаў незнаёмы.

«Ён аддае сабе належнае ці кажа так ад празмернай сціпласці? — папытаўся я сам у сябе, бо чым болей я разглядаў спадарожніка, тым болей заўважаў у ім прыкметы Хасэ-Марыі, пададзеныя ў абвестках, расклееных у гарадах Андалусіі.— Так, гэта ён... Светлыя валасы, блакітныя вочы, вялікі рот, прыгожыя зубы, маленькія рукі; тонкая кашуля, аксамітная куртка са срэбнымі гузікамі, гетры з белай скуры, гнеды конь... Усё супадае! Але не будзем раскрываць яго інкогніта».

Мы дабраліся да венты. Яна была якраз такая, як ён апісаў,— ці не самая ўбогая з усіх, якія я толькі бачыў. Вялікі пакой быў адначасова і кухняй, і сталовай, і спальняй. Агонь разводзіўся пасярод пакоя на пляскатым камені, і дым выходзіў праз адтуліну, прабітую ў даху, ці, хутчэй, нават не выходзіў, а павісаў воблакам за некалькі стоп ад зямлі. Уздоўж сцен віднеліся раскладзеныя на зямлі пяць ці шэсць старых гунек — то былі пасцелі для падарожнікаў. За дваццаць крокаў ад дома, ці, хутчэй, ад адзінага пакоя, які я толькі што апісаў, стаяла нешта накшталт павеці — гэта была стайня. У гэтым чароўным прытулішчы не было

іншае чалавечае істоты, прынамсі на той момант, апроч старой кабеты і дзяўчынкі дзесяці — дванаццаці гадоў, абедзве былі чорныя, як сажа, і ў жахлівых лахманах. «Вось,— сказаў я сам сабе,— усё, што засталося ад насельнікаў старажытнай Мунды Бетыцкае! О Цэзар! О Сэкст Пампей! Як бы вы здзівіліся, калі б вярнуліся да жыцця!»

Заўважыўшы майго спадарожніка, старая ўскрыкнула ад здзіўлення:

— Ай! Сеньёр дон Хасэ!

Дон Хасэ насупіў бровы і ўладарным рухам падняў руку. Старая адразу змоўкла. Я павярнуўся да праваднікa і ледзь заўважным знакам даў яму зразумець, што мне не трэба тлумачыць, з кім я меўся начаваць у адным доме. Вячэра была лепшая, чым я мог чакаць. Нам падалі на маленькі стол вышынёю ў адну стапу старога варанага пеўня з рысам і вострым перцам, пасля чырвоны перац у алеі і, урэшце, *гаспача* — нешта накшталт салаты з перцу. Тры гэтак вострыя стравы вымушалі нас часта зажываць з бурдзюка з мантыльскім віном, якое мела чароўны смак. Паеўшы, я ўбачыў на сцяне мандаліну — у Іспаніі паўсюль можна ўбачыць мандаліну — і спытаўся ў дзяўчынкі, якая нам слугавала, ці ўмее яна на ёй іграць.

— Не,— адказала яна.— Але дон Хасэ грае так добра!

— Зрабіце ласку,— папрасіў я,— паспявайце што-небудзь. Я вельмі люблю вашу народную музыку.

— Я ні ў чым не магу адмовіць такому пачціваму пану, які частуе мяне такімі цудоўнымі цыгарамі,— сказаў палагаднелы дон Хасэ. Узяўшы ў рукі мандаліну, ён заспяваў, сам сабе акампануючы. Голас у яго быў грубы, аднак прыемны, мелодыя была нязвыклая і сумотная. Што да словаў, дык я не зразумеў ніводнага.

— Калі я не памыляюся, вы спявалі не іспанскую песню,— сказаў я яму.— Гэта нагадвае мне *сарсіка*, якія я чуў у *Правінцыях*[1], і спявалі вы, пэўна ж, па-басконску.

— Усё так,— згадзіўся дон Хасэ, спахмурнеўшы.

Ён паклаў мандаліну на зямлю і, склаўшы рукі, з нейкай невыказнай тугою пачаў глядзець на агонь, што ўжо пачынаў затухаць. Асветлены лямпаю, што стаяла на століку, яго твар, адначасова шляхетны і дзікі, нагадаў мне Мілтанавага Сатану. Мой спадарожнік, відаць, таксама тужыў па

[1] Прывілеяваныя правінцыі, што маюць права на асаблівыя *fueros*, правы, гэта значыць Алава, Біская, Гіпускоа і частка Навары. Там гавораць па-басконску *(аўт.)*.

мясцінах, якія быў вымушаны пакінуць, таксама думаў аб выгнанні, на якое быў засуджаны праз нейкі грэх. Я паспрабаваў зноў распачаць размову, але ён не адказваў, цалкам ахоплены сваімі маркотнымі думкамі. Старая ўжо ўлеглася ў куце, за дзіравай коўдрай-заслонай, нацягнутай на вяроўцы. Дзяўчынка легла побач з ёю ў гэтым закутку, прызначаным для прыгожага полу. Тады мой праваднік устаў і запрасіў мяне з сабой у стайню, але, пачуўшы гаворку, дон Хасэ падхапіўся і рэзкім голасам спытаўся, куды ён збіраецца ісці.

— У стайню,— адказаў праваднік.

— Нашто? Коні накормлены. Ляжы тут, пан табе дазваляе.

— Я баюся, што конь майго пана захварэў, я хацеў бы, каб мой пан яго пабачыў,— можа, ён ведае, што трэба зрабіць.

Было зразумела, што Антоніо хацеў пагаварыць са мною сам-насам. Але я зусім не збіраўся абуджаць у дона Хасэ ніякіх падазрэнняў, і мне здавалася, што ў нашай сітуацыі лепш за ўсё будзе, калі я пастаўлюся да яго з як найбольшым даверам. І я адказаў Антоніо, што я нічога не разумею ў конях і хачу спаць. Дон Хасэ пайшоў з ім у стайню і хутка вярнуўся адзін. Ён сказаў, што з канём усё добра, але мой праваднік лічыць яго такой каштоўнай жывёлінай, што застаўся націраць яго сваёй курткай, каб у каня выйшаў пот, і збіраецца правесці ўсю ноч за гэтым дужа прыемным заняткам.

Тым часам я лёг на старыя гунькі і, каб да іх не дакранацца, старанна закруціўся ў свой плашч. Папрасіўшы прабачэння за тое, што ён дазваляе сабе легчы побач са мной, дон Хасэ паклаўся пад дзвярмі, не забыўшыся папярэдне памяняць набой у сваім мушкетоне, які ён асцярожна паклаў пад торбу, што была яму за падушку. Пажадаўшы адзін аднаму добрай ночы, праз пяць хвілін мы абодва спалі як забітыя.

Я думаў, што я дастаткова стаміўся, каб здолець заснуць у гэткім прытулішчы, але праз нейкую гадзіну нясцерпны сверб абудзіў мяне. Як толькі я зразумеў яго прычыну, я ўстаў і вырашыў, што лепш правесці рэшту ночы пад вольным небам, чым пад гэтым негасцінным дахам. Ступаючы на дыбачках, я падышоў да дзвярэй, пераступіў цераз пасцель дона Хасэ, які спаў сном праведніка, і выйшаў з хаты так ціха, што ён не прачнуўся. На двары каля дзвярэй стаяла шырокая драўляная лава. Я лёг на яе і ўлад-

каваўся ўтульней, каб даспаць рэшту ночы. Я ўжо збіраўся заплюшчыць вочы, калі мне падалося, што міма бязгучна прайшлі два цені,— чалавека і каня. Я сеў на лаве і пазнаў Антоніо. Я здзівіўся, што ён выйшаў са стайні гэткай часінай, устаў і пайшоў яму насустрач. Заўважыўшы мяне, ён прыпыніўся.

— Дзе ён? — шэптам спытаўся Антоніо.

— У венце, ён спіць, бо не баіцца клапоў. А нашто вы вывелі каня?

І тады я заўважыў, што, каб не нарабіць шуму, выходзячы са стайні, Антоніо старанна абкруціў конскія капыты старымі анучамі.

— Гаварыце цішэй, у імя Бога,— папрасіў мяне Антоніо.— Дык вы не ведаеце, хто гэты чалавек? Гэта Хасэ Навара, самы славуты бандыт ва ўсёй Андалусіі. Увесь дзень я даваў вам знакі, якіх вы ніяк не хацелі разумець.

— Бандыт ён ці не бандыт, што мне да таго? — адказаў я.— Ён нас не абрабаваў, і я магу закласціся, што ён не збіраецца гэтага рабіць.

— Хай сабе, але таму, хто яго выдасць, дадуць дзвесце дукатаў. За паўтара лье адсюль ёсць уланскі пост, і пакуль развіднее, я прывяду сюды пару дужых малойцаў. Я ўзяў бы ягонага каня, але ён такі злы, што ніхто, апроч Навары, не можа да яго падысці.

— Каб вас д'яблы знеслі! — зазлаваў я.— Што зрабіў вам гэты бедны чалавек, каб яго выдаваць? Дый ці ўпэўнены вы, што ён — той бандыт, пра якога вы гаворыце?

— Ды ўжо ж упэўнены, толькі што ён быў са мной у стайні і сказаў мне: «Здаецца, ты мяне пазнаў. Калі ты скажаш гэтаму добраму пану, хто я такі, я выб'ю табе мазгі». Заставайцеся, пане, заставайцеся з ім, вам няма чаго баяцца. Пакуль вы тут, ён ні пра што не западозрыць.

Размаўляючы так, мы адышліся даволі далёка ад венты, і можна было ўжо не баяцца стукату капытоў. Антоніо імгненна зняў анучы, якімі ён абкруціў конскія ногі, і збіраўся скочыць у сядло. Просьбамі і пагрозамі я спрабаваў яго затрымаць.

— Я бедны чалавек, пане,— сказаў ён.— Я не магу выпусціць з рук дзвесце дукатаў, асабліва калі выпала нагода вызваліць край ад такога нягодніка. Але будзьце асцярожныя, калі Навара прачнецца, ён схопіцца за свой мушкетон, і тады беражыцеся! Мне ўжо няма куды адступаць, а вы ўжо выкручвайцеся як можаце.

І гэты круцель скочыў у сядло, пршпорыў каня і знік у цемры.

Я быў вельмі разззлаваны на майго праваднiка i не на жарт занепакоены. Хвiлiнку паразважаўшы, я вырашыў, што i як я буду рабiць, i вярнуўся ў хату. Дон Хасэ яшчэ спаў — ён, вiдаць, набiраўся сiлы пасля некалькiх утомных дзён i няспаных начэй. Прыйшлося добра яго патрэсцi, пакуль ён прачнуўся. Я нiколi не забуду яго люты позiрк i рух, калi ён хацеў схапiць мушкетон, якi я дзеля асцярогi адсунуў далей ад пасцелi.

— Прабачце, пане, што я вас абудзiў, але ў мяне да вас ёсць адно дурное пытанне: цi не жадалi б вы ўбачыць тут паўтузiна ўланаў?

Ён ускочыў на ногi i спытаўся страшным голасам:

— Хто вам гэта сказаў?

— Абы гэтае папярэджанне было на добрае, а адкуль яно — не так важна.

— Ваш праваднiк здрадзiў, але ён мне заплацiць! Дзе ён?

— Не ведаю... Напэўна, у стайнi... але мне сказалi...

— Хто?.. Старая не магла сказаць...

— Нехта, каго я не ведаю... Карацей кажучы, цi ёсць у вас прычыны не чакаць тут салдатаў? Калi так, дык не губляйце часу, а калi не, дык дабранач i выбачайце, што не даў вам даспаць.

— А! Праваднiк! Ваш праваднiк! Я з самага пачатку яму не давяраў... але... я з iм парахуюся!.. Бывайце, пане, хай Бог адплацiць вам за паслугу, што вы мне зрабiлi. Не такi я ўжо i злы, як вам здаецца... так, ва мне ёсць яшчэ нешта, што заслугоўвае лiтасцi прыстойнага чалавека... Бывайце, пане... Я шкадую толькi, што не магу вам адплацiць.

— У якасцi адплаты за маю паслугу паабяцайце мне, дон Хасэ, нiкога не падазраваць i не думаць пра помсту. Вось вам цыгары з сабой, добрай дарогi!

I я падаў яму руку.

Нiчога не адказаўшы, ён пацiснуў руку, узяў мушкетон i торбу i, сказаўшы старой пару слоў на незразумелай мне гаворцы, пабег у стайню. Праз нейкi момант пачуўся стукат капытоў, i ён знiк.

Што да мяне, я зноў лёг на лаву, але так i не заснуў. Я пытаўся ў сябе, цi меў я права ўратаваць ад шыбенiцы злодзея, можа, нават забойцу, i ўсё толькi таму, што я еў з iм разам вяндлiну i рыс па-валенсiйску. Цi не здрадзiў я свайму праваднiку, якi стаяў на баку закону, цi не навёў я на

яго помсту злачынца? Але ж правілы гасціннасці!.. Дзікунскія забабоны, думаў я, я буду адказны за ўсе злачынствы, што наробіць гэты бандыт... Але ці можна лічыць забабонам голас сумлення, які пярэчыць усім маім разважанням? Можа, у гэтай далікатнай сітуацыі я і не мог зрабіць інакш, каб пасля не пакутаваць душой. Гэтак я вагаўся ў няпэўнасці наконт маральнасці майго ўчынку, калі ўбачыў паўтузіна коннікаў разам з Антоніо, які абачліва хаваўся за іх спіны. Я выйшаў ім насустрач і папярэдзіў, што бандыт уцёк ужо гадзіны дзве таму. Брыгадзір распытаў старую, і тая сказала, што ведае Навару, але, жывучы адна, ніколі не наважылася б яго выдаць, баючыся за сваё жыццё. Яна дадала, што калі ён спыняўся ў яе, дык заўсёды з'язджаў сярод ночы. Што да мяне, я мусіў праехаць некалькі лье, каб паказаць пашпарт і падпісаць сведчанні ў прысутнасці алькальда, пасля гэтага мне дазволілі працягваць археалагічныя пошукі. Антоніо злаваўся на мяне, бо падазраваў, што гэта я не даў зарабіць яму дзвесце дукатаў. Аднак мы рассталіся добрымі сябрамі ў Кордаве, там я аддзячыў яму, наколькі дазваляў мне стан маіх фінансаў.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

## II

У Кордаве я прабыў некалькі дзён. Мне паведамілі, што ў бібліятэцы дамініканскага кляштара ёсць адзін рукапіс, у якім я магу знайсці цікавыя звесткі пра старажытную Мунду. Айцы дамінікане прынялі мяне вельмі добра, днямі я сядзеў у кляштары, а вечарамі гуляў па горадзе. У Кордаве перад заходам сонца на набярэжнай правага берага Гвадалквівіра збіраецца нямала разявакаў. Паветра там цяжкае ад выпарэнняў гарбарнае фабрыкі, дзякуючы якой край спрадвеку славіўся выдатнымі скурамі, але ж затое прысутныя могуць аглядаць вартае ўвагі відовішча. За некалькі хвілін перад малітвай «Анёл Гасподні» на беразе ракі, ля падножжа высокай набярэжнай збіраецца вялікі тлум жанчын. Ніводзін мужчына не наважыўся б туды сунуцца. Як толькі пачынаюць званіць на малітву, лічыцца, што настала ноч. Калі звон сціхае, усе гэтыя жанчыны раздзяваюцца і ўваходзяць у ваду. Тады ўсчынаецца смех, крыкі, пякельная ґамана. З вышыні набярэжнай мужчыны разглядаюць купальніц, вылупваюць вочы, але не надта што бачаць. Тым часам тыя белыя няясныя постаці, што вырысоўваюцца ў

рачной сінечы, будзяць паэтычнае натхненне, і, дабраўшы трошкі фантазіі, вы без цяжкасці можаце ўявіць сабе купанне Дыяны і німфаў, не баючыся паўтарыць нешчаслівую долю Актэона. Мне расказалі, як аднойчы некалькі шалапутаў назбіралі грошай і падкупілі званара ў катэдры, каб той пазваніў на дваццаць хвілін раней за ўсталяваны час. І хоць было яшчэ зусім светла, гвадалквівірскія німфы не сталі вагацца і, давяраючы званам больш, чым сонцу, спакойна распачалі абрад абмывання, зрэшты, вельмі просты. Мяне там не было. Калі я прыехаў, званар быў ужо непадкупны, сутонне цямнейшае, і толькі кашэчае вока магло б адрозніць старую гандлярку апельсінамі ад спакуслівай фабрычнай маладзіцы.

Аднойчы ўвечары, калі ўжо нічога не было відаць, я курыў, абапершыся на парэнчы набярэжнай. Па сходах, што вядуць да рэчкі, паднялася жанчына і села побач са мною. У валасах яе быў вялікі букет язміну, пялёсткі якога разлівалі ў вячэрнім паветры п'янючы водар. Адзетая яна была проста, нават бедна, уся ў чорным, як большасць маладых работніц увечары. Прыстойныя жанчыны носяць чорнае толькі раніцай, увечары яны ўбіраюцца *à la francesa*[1]. Падышоўшы да мяне, купальніца апусціла на плечы мантылью, што акрывала яе галаву, і, *пад свяцэнню прыцемненай, што падае ад зорак*, я ўбачыў, што яна маленькая, маладзенькая, зграбненькая і што ў яе вельмі вялікія вочы. Я зараз жа выкінуў цыгару. Яна зразумела гэты знак чыста французскай ветлівасці і адразу сказала, што вельмі любіць тытунёвы пах і што нават часам курыць, калі ёй трапляюцца слабенькія *папэлітас*[2]. На шчасце, я меў такія пры сабе і зараз жа ёй запрапанаваў. Яна мела ласку ўзяць адну і прыкурыла ад запаленай вяроўкі, якую паднёс хлопчык, зарабіўшы свой грош. Седзячы гэтак і курачы, мы — прыгожая купальніца і я — гаварылі яшчэ доўга, і, урэшце, на набярэжнай, апроч нас, амаль нікога не засталося. Я падумаў, што, з майго боку, не будзе непрыстойным, калі я запрашу яе ў *неверыю*[3] з'есці марожанае. Сціпла павагаўшыся, яна згадзілася, але найперш яна пажадала даведацца, каторая ўжо гадзіна. Я паставіў свой гадзіннік на бой, і бой гэты, як мне здалося, вельмі яе ўразіў.

---

[1] Па-французску *(ісп.)*.
[2] Папяросы *(ісп.)*.
[3] *Неверыя* — кавярня з лядоўняй, ці, хутчэй, з запасам снегу. У Іспаніі няма мястэчка, дзе б не было *неверыі* *(аўт.)*.

— Якіх толькі ў вас, замежнікаў, няма дзівосаў! А вы, пане, з якой краіны? Пэўна, англічанін?[1]

— Француз, і гатовы вам служыць. А вы, панна ці пані, вы, відаць, з Кордавы?

— Не.

— Ну, прынамсі, вы андалуска. Гэта чуваць з вашай гаворкі.

— Калі вы так добра заўважаеце акцэнт, дык мусіце ўгадаць, хто я.

— Мне здаецца, вы з краіны Ісуса, што за два крокі ад раю.

(Гэтай метафары, што азначае Андалусію, я навучыўся ад майго сябра Франсіска Севільы, вядомага пікадора.)

— Рай! Ды што вы... тутэйшыя людзі кажуць, што ён створаны не для нас.

— Тады вы маўрытанка або...— і я спыніўся, не наважваючыся сказаць: яўрэйка.

— Ну, ну! Ды няўжо вы не бачыце, што я цыганка? Хочаце, паваражу вам? Ці вы чулі што пра Кармэнсіту? Дык гэта я.

Тады, пятнаццаць гадоў таму, я быў такі бязбожнік, што не адступіўся з жахам, убачыўшы перад сабою вядзьмарку. «Добра! — сказаў я сабе.— На тым тыдні я вячэраў з разбойнікам, чаму мне сёння не зайсці паесці марожанае з д'яблавай прыслужніцай? Калі падарожнічаеш, трэба звядаць усё». У мяне была і іншая прычына працягнуць знаёмства. Не без сораму прызнáюся, што, скончыўшы калеж, я патраціў нейкі час на вывучэнне таемных навук і нават колькі разоў спрабаваў выклікаць дух цемры. Даўно вылечыўшыся ад цягі да гэткіх доследаў, я тым не менш захаваў пэўную цікаўнасць да ўсіх забабонаў і ўжо загадзя радаваўся, што ўбачу, якіх вышыняў дасягнула мастацтва варажбы сярод цыганоў.

Гаворачы гэтак, мы ўвайшлі ў *неверыю* і селі за маленькі столік са свечкай, накрытай шкляным каўпаком. Там, урэшце, я змог уважлівей разгледзець маю *хітану*[2], тым часам як некалькі прыстойных людзей елі марожанае і дзівіліся, бачачы мяне ў гэткай нязвыклай кампаніі.

Я вельмі сумняваюся, каб панна Кармэн была чыста-

---

[1] У Іспаніі кожнага падарожніка, што не возіць з сабою ўзоры паркалю і шоўку, лічаць англічанінам, *Inglesito*. Тое самае на Ўсходзе. У Халкідзе я меў гонар быць адрэкамендаваным як Μιλόρδος Φραντσέσος *(аўт.)*.

[2] Цыганка *(ісп.)*.

кроўная цыганка, але ва ўсялякім разе яна была непараўнальна прыгажэйшая за ўсіх жанчын яе нацыі, якіх мне толькі даводзілася бачыць. Каб жанчына была прыгожая, кажуць іспанцы, трэба, каб у ёй спалучалася трыццаць «калі» ці каб яе можна было апісаць дзесяткам прыметнікаў, кожны з якіх стасаваўся б да трох частак яе цела. Напрыклад, яна мусіць мець тры чорныя рэчы: вочы, вейкі і бровы; тры тонкія: пальцы, вусны і валасы і г. д. Падрабязнасці можна знайсці ў Брантома. Мая цыганка не прэтэндавала на дасканаласць. Яе скура, зрэшты, выключна гладкая, колерам нагадвала медзь. Разрэз трошкі раскосых вачэй быў бездакорны, вусны даволі пульхныя, але прыгожа выведзеныя, зубы белыя, як лушчаныя зярняткі міндалю. Валасы ў яе, можа, і занадта жорсткія, былі сінявата-чорныя, як воранава крыло, даўгія і бліскучыя. Каб не стамляць вас шматслоўным апісаннем, скажу, падсумаваўшы, што кожны яе недахоп ураўнаважваўся нейкай вартасцю, якая праз кантраст выдавалася яшчэ значнейшай. Гэта была дзіўная і дзікая прыгажосць, твар, які спачатку здзіўляе, але які пасля немагчыма забыць. Асабліва ж мяне ўразілі яе вочы, яе позірк, пажадлівы і жорсткі, які я больш ні ў кога не бачыў. Цыганскае вока — воўчае вока, кажа іспанская прымаўка, у якой выявілася нечая добрая назіральнасць. Калі ў вас няма часу схадзіць у заалагічны сад, каб пабачыць ваўка, тады паназірайце за вашым катом, калі ён палюе на вераб'я.

Відаць, было б смешна, калі б яна пачала варажыць мне ў кавярні. Таму я папрасіў прыгожую вядзьмарку дазволіць правесці яе дадому. Яна без ваганняў згадзілася, але захацела даведацца, ці шмат прайшло часу, і зноў папрасіла мяне завесці гадзіннік на бой.

— Ці праўда, што ён залаты? — спыталася яна, разглядаючы яго аж занадта ўважліва.

Калі мы выйшлі, была ўжо ноч. Большасць крамак была зачыненая, вуліцы былі амаль зусім пустыя. Мы прайшлі праз мост цераз Гвадалквівір і на самым краі прадмесця спыніліся перад домам, які зусім не нагадваў палац. Нам адчыніў хлопчык. Цыганка сказала яму колькі слоў невядомай мне моваю, як я пасля даведаўся, гэта была цыганская гаворка — *рамані* або *чыпе калы*. Хлопчык адразу знік, і мы засталіся ў даволі прасторным пакоі, дзе стаяў невялічкі стол, два зэдлікі і куфар. Апроч гэтага я ўбачыў там збан з вадой, апельсіны і лукно цыбулі.

Як толькі мы засталіся адны, цыганка дастала з куфра

карты, якія, пэўна, шмат пабачылі за свой век, магніт, высахлага хамелеона і яшчэ нейкія прадметы, неабходныя ў яе рамястве. Пасля яна папрасіла, каб я накрэсліў манетай крыж сабе на левай далоні, і магічныя дзействы пачаліся. Няма сэнсу пераказваць вам яе прадказанні, а з таго, як яна ўсё гэта рабіла, было відаць, што варажбітка з яе была не абы-якая.

На няшчасце, хутка мы мусілі перапыніцца. Раптам рэзка расчыніліся дзверы, у пакой увайшоў чалавек, загорнуты да самых вачэй у шырокі цёмны плашч, і не надта ласкава загаварыў з цыганкай. Я не чуў, што ён кажа, але з яго голасу можна было зразумець, што ён нечым вельмі незадаволены. Убачыўшы яго, цыганка не выказала ні подзіву, ні гневу, выбегла яму насустрач і пачала нешта хуценька яму тлумачыць на той таямнічай мове, якой яна ўжо карысталася ў маёй прысутнасці. Слова *паільё*, паўторанае некалькі разоў, было адзіным словам, што я разумеў. Я ведаў, што так цыгане называюць любога чужога іхняму племені чалавека. Мяркуючы, што гаворка была пра мяне, я рыхтаваўся да высвятлення адносін; я ўжо трымаўся рукою за ножку зэдліка і разважаў сам сабе пра тое, калі будзе зручней шпурнуць яго ў галаву чужынцу. Але той груба адпіхнуў цыганку і кінуўся да мяне. Раптам, спыніўшыся, адступіўся на крок і сказаў:

— Ах! Пане, гэта вы!

Я паглядзеў на яго і пазнаў майго спадарожніка дона Хасэ. У тую хвілю я ўжо трошкі пашкадаваў, што ўратаваў яго ад шыбеніцы.

— А, гэта вы, шаноўны! — закрычаў я і як мага шчырэй засмяяўся.— Вы перапынілі панну якраз тады, калі яна прадвяшчала мне даволі цікавыя рэчы.

— Зноў за сваё! Некалі гэта скончыцца,— працадзіў ён скрозь зубы, утаропіўшы ў яе дзікі позірк.

Тым часам цыганка працягвала нешта яму казаць на сваёй мове. Яна ўсё болей распалялася. Вочы яе наліліся крывёю і зрабіліся страшныя, твар скрывіўся, яна тупала нагою. Мне здалося, што яна прыспяшае яго нешта зрабіць, а ён, відаць, вагаецца. Чым было гэтае «нешта», я зразумеў аж занадта добра, убачыўшы, як яна хуценька чыркае сваёй маленькай ручкай сабе па шыі. Мне міжволі здалося, што гаворка ішла пра тое, каб перарэзаць некаму горла, і я меў пэўныя падазрэнні, што гэтае горла — маё.

На ўвесь гэты бурлівы паток красамоўства дон Хасэ адказаў толькі двума-трыма ўрывістымі словамі. Цыганка

адно зірнула на яго з глыбокай пагардай. Сеўшы ў куце па-турэцку, яна ўзяла апельсін, абабрала яго і пачала есці.

Дон Хасэ ўзяў мяне за руку, адчыніў дзверы і выйшаў са мною на вуліцу. Сотні дзве крокаў мы прайшлі моўчкі. Пасля ён паказаў рукою наперад і сказаў:

— Ідзіце проста і вы выйдзеце на мост.

Сказаўшы гэта, ён павярнуўся і пайшоў, прыспешваючы хаду. Я вярнуўся ў свой гатэль трохі збянтэжаны і ў злым гуморы. Але найгоршым было тое, што, раздзеўшыся, я ўбачыў, што майго гадзінніка няма.

З пэўных меркаванняў я не пайшоў наступнага дня патрабаваць яго звароту ці хадайнічаць перад панам карэхідорам, каб ён распачаў пошукі злодзея. Я скончыў працаваць з рукапісам у дамініканаў і выехаў у Севілью. Павандраваўшы некалькі месяцаў па Андалусіі, я захацеў вярнуцца ў Мадрыд і мусіў ехаць праз Кордаву. Я не збіраўся спыняцца там надоўга, бо незалюбіў гэты прыўкрасны горад і купальніц у водах Гвадалквівіра. Аднак мне трэба было пабачыць сяго-таго з сяброў, сёе-тое перадаць, і я мусіў затрымацца дні на тры-чатыры ў гэтай старадаўняй сталіцы мусульманскіх князёў.

Як толькі я зноў паявіўся ў дамініканскім кляштары, адзін з айцоў, які заўсёды з вялікай цікаўнасцю ставіўся да маіх даследаванняў адносна размяшчэння Мунды, радасна прывітаў мяне і сказаў:

— Хай уславіцца Божае імя! Рады вітаць вас, дарагі дружа. Мы ўсе ўжо думалі, што вы памерлі, і я шмат разоў адчытаў *Pater* і *Ave*, аб чым я ані не шкадую, за збаўленне вашай душы. Значыць, вас не забілі? Пра тое, што вас абакралі, мы ўжо ведаем.

— Адкуль? — спытаўся я, трохі здзівіўшыся.

— Ну, вы ж ведаеце, той прыгожы гадзіннік з боем, які вы даставалі з кішэні ў бібліятэцы, калі мы казалі вам, што ўжо пара ісці ў царкву. Дык вось, гэты гадзіннік знайшоўся, і вам яго аддадуць.

— ...Значыць, я яго згубіў...— нерашуча перапыніў я.

— Той нягоднік пад замком, і, ведаючы, што гэты чалавек дзеля адной песеты здольны застрэліць добрага хрысціяніна, мы паміралі ад страху, што ён вас забіў. Я пайду з вамі да карэхідора, і вам аддадуць ваш прыгожы гадзіннік. І паспрабуйце пасля там у сябе сказаць, што правасуддзе ў Іспаніі не ведае сваёй справы!

— Прызнаюся шчыра, што я лепш згубіў бы назаўсёды свой гадзіннік, чым стаў бы сведчыць перад судом, каб

паслаць на шыбеніцу нейкага небараку, тым болей што... што...

— О, не хвалюйцеся за яго, ён сваё зарабіў, а двойчы яго не павесяць. Дый калі я кажу «павесяць», я памыляюся. Ваш злодзей — ідальга, і таму паслязаўтра яго чакае *гарота*[1]. А ўжо адным крадзяжом болей ці меней — гэта яго не ўратуе. Ды каб жа ж ён толькі краў! Але ж на яго душы яшчэ і некалькі забойстваў, адно страшнейшае за другое.

— Як яго завуць?

— У нашым краі яго ведаюць як Хасэ Навара, але ў яго ёсць яшчэ і басконскае імя, якое ні мне, ні вам ніколі не ўдасца вымавіць. Дарэчы, на гэтага чалавека варта паглядзець, і калі ўжо вас вабяць усе мясцовыя дзівосы, вам будзе цікава даведацца, як у Іспаніі нягоднікі пакідаюць гэты свет. Ён цяпер у капліцы, і айцец Марцінэс правядзе вас туды.

Мой дамініканін так настойваў, каб я ўбачыў усю падрыхтоўку да «корошы маленкі повьешэне», што мне не было чым бараніцца. І я пайшоў наведаць вязня, узяўшы з сабою пачак цыгар, якія, як я спадзяваўся, мусілі служыць прабачэннем за маю нясціпласць.

Мы ўвайшлі да дона Хасэ, калі ён еў. Ён даволі стрымана мне кіўнуў і ветліва падзякаваў за падарунак, што я яму прынёс. Падлічыўшы цыгары ў пачку, што я паклаў яму ў руку, ён выбраў некалькі, а рэшту аддаў, сказаўшы, што столькі яму не спатрэбіцца.

Я спытаўся, ці з дапамогай грошай або маіх уплывовых сяброў я не магу неяк палегчыць яго лёс. Спачатку ён пацiснуў плячмі і сумна ўсміхнуўся. Пасля, падумаўшы, папрасіў заказаць імшу за збаўленне ягонае душы.

— Ці не маглі б вы,— нерашуча дадаў ён,— ці не маглі б вы заказаць яшчэ адну за таго, хто вас абразіў?

— Вядома ж, дарагі дружа,— сказаў я.— Але ж у гэтай краіне мяне ніхто не абражаў.

Ён узяў маю руку і пацiснуў яе, паважна паглядзеўшы на мяне. Памаўчаўшы, ён прадоўжыў:

— Ці можна папрасіць вас зрабіць яшчэ адну ласку?.. Калі вы будзеце вяртацца ў вашу краіну, вы, можа, будзеце ехаць праз Навару, прынамсі, вы паедзеце праз Віторыю, што недалёка ад Навары.

---

[1] Яшчэ ў 1830 годзе дваране мелі гэты прывілей. Сёння ж, пад канстытуцыйным рэжымам, права на *гароту* маюць і вольныя сяляне *(аўт.)*.

— Так,— адказаў я,— я абавязкова паеду праз Віторыю. Але цалкам магчыма, што я завярну, каб заехаць у Памплону, а дзеля вас я з прыемнасцю зраблю такі крук.

— Ну дык вось, калі вы будзеце ў Памплоне, вы ўбачыце там шмат цікавага... Гэта прыгожы горад... Я дам вам гэты медальён (ён паказаў мне маленькі срэбны медальён, што вісеў у яго на шыі), вы загарнеце яго ў паперу...— ён спыніўся на хвіліну, каб суняць хваляванне...— і перадасцё яго самі або праз некага адной добрай жанчыне, я скажу вам яе адрас. Скажаце, што я памёр, толькі не кажыце як.

Я паабяцаў выканаць даручэнне. Наступнага дня я зноў прыйшоў да яго і правёў з ім частку дня. І я пачуў з ягоных вуснаў пра тыя сумныя прыгоды, якія будуць тут апісвацца.

## III

— Нарадзіўся я ў Элісонда, у Бастанскай даліне. Маё імя — дон Хасэ Лісарабэнгоа, і вы, пане, дастаткова ведаеце Іспанію, каб маё імя адразу сказала вам, што я басконец і спрадвечны хрысціянін. Калі я ўжываю тытул *дон*, дык, значыць, я маю на гэта права, і калі б мы былі ў Элісонда, я б паказаў вам мой радавод на пергаменце. Мяне хацелі зрабіць святаром і прымушалі вучыцца, але вялікіх поспехаў у вучэнні я не дасягнуў. Я задужа любіў гуляць у мяч, гэта мяне і загубіла. Калі мы, наварцы, гуляем у мяч, мы забываемся пра ўсё. Аднойчы, калі я перамог аднаго хлопца з Алавы, ён распачаў сварку, і мы ўзялі нашыя *макілы*[1], і я зноў перамог, але гэтым разам мусіў пакінуць мой край. Я сустрэў драгунаў і запісаўся ў Альмансаўскі кавалерыйскі полк. Жыхары нашых гор хутка навучаюцца вайсковаму рамяству. Неўзабаве я стаў брыгадзірам і ўжо рыхтаваўся стаць вахмістрам, калі, на маё няшчасце, мяне прызначылі ў варту на севільскай тытунёвай фабрыцы. Калі вы былі ў Севільі, вы бачылі гэтую вялікую будыніну за гарадскім мурам, на беразе Гвадалквівіра. Я і цяпер бачу, як наяве, браму і вартоўню побач з ёй. Іспанцы, калі яны стаяць на варце, гуляюць у карты або спяць, а я, шчыры наварац, заўсёды стараўся нечым заняцца. Я рабіў ланцужок з масянжовага дроту для запальнай іголкі. І раптам мае таварышы кажуць: «Во, б'юць у званы, зараз дзеўкі будуць вяртацца на працу». Вы ведаеце, пане, там на фабрыцы пра-

[1] Абабітыя жалезам кіі ў басконцаў *(аўт.)*.

цуе чатырыста — пяцьсот жанчын. Гэта яны скручваюць цыгары ў вялікай зале, куды мужчыны не могуць увайсці без дазволу *вейнтыкуатра*[1], бо работніцы, асабліва маладыя, не вельмі саромеюцца і, калі вельмі горача, ходзяць, як ім зручней. Паабедаўшы, яны вяртаюцца на працу, і на іх прыходзяць паглядзець шмат маладых хлапцоў, якія бавяць іх рознымі байкамі. І рэдка хто з паненак адмовіцца ад кітайскай мантылы, і аматарам такой лоўлі трэба толькі нахіліцца, каб схапіць рыбку. Пакуль іншыя глядзелі, я заставаўся сядзець на лаве каля брамы. Тады я быў малады. Я сумаваў па родным краі і не верыў, што дзяўчаты могуць быць прыгожыя, калі яны не ў сініх спадніцах і калі косы ў іх не спадаюць на плечы[2]. Дый баяўся я тых андалусак, тады я яшчэ не прызвычаіўся да іх манер: ім усё смешкі, разумнага слова не скажуць. Так я і сядзеў, уткнуўшы нос у свой ланцужок, калі раптам чую, як мяшчане кажуць адзін аднаму: «Глядзі, якая цыганачка!» Я падняў вочы і ўбачыў яе. Была пятніца, і я ніколі не забуду той дзень. Я ўбачыў Кармэн, вы яе ведаеце — гэта ў яе я сустрэў вас пару месяцаў таму.

На ёй была чырвоная, даволі кароткая спадніца, белыя шаўковыя панчохі, на якіх была не адна дзірка, чырвоныя саф'янавыя чаравічкі з ярка-агністымі стужкамі. Яна адхінула мантылью, каб паказаць свае плечы і вялікі букет акацыі, схаваны на грудзях. Яшчэ адну кветку акацыі яна трымала ў зубах, ішла яна, пагойдваючы клубамі, як маладая жаробка Кордаўскага завода. У нашых краях, убачыўшы жанчыну гэтак убраную, людзі б жагналіся. У Севільі кожны кідаў зухаватыя кампліменты наконт яе выгляду і манераў, і яна адказвала кожнаму гуллівым позіркам, упершыся кулакамі ў клубы, дзёрзкая і нахабная, як істая цыганка. Спачатку яна мне не спадабалася, і я зноў узяўся за сваю працу; але яна, наследуючы звычку жанчын і катоў, якія не падыходзяць, калі іх клічуць, і падыходзяць, калі іх не клічуць, спынілася перада мной і сказала:

— Гэй, дружа, ты не падаруеш мне свой ланцужок, каб я насіла на ім ключы ад скрыні з грашыма?

— Не, гэта для маёй іголкі,— адказаў я.

— Іголкі! — засмяялася яна.— Ах, пан, напэўна, пляце карункі, калі займаецца іголкамі.

---

[1] Службовец, які ажыццяўляе ахову парадку і гарадское кіраванне *(аўт.)*.

[2] Звычайны строй сялянак Навары і басконскіх правінцый *(аўт.)*.

Усе, хто там быў, выбухнулі смехам, а я адчуваў, што чырванею, і не мог знайсці, што б ёй адказаць.

— Слухай, сардэнька,— кажа яна,— зрабі мне сем локцяў чорных карункаў для мантылі, мярэжнік ты мой!

І, узяўшы кветку акацыі, што сціскала зубамі, яна кінула яе лёгкім рухам проста мне ў твар. О пане, нібы куля ў лоб... Я не ведаў, куды падзецца, я стаяў як слуп. Калі яна ўвайшла ў будынак фабрыкі, я ўбачыў кветку акацыі каля маіх ног; не ведаю, штó на мяне найшло, але я ўпотай ад таварышаў падняў кветку і схаваў яе, як найвялікшы скарб, у кішэню курткі. Першае глупства!

Праз дзве-тры гадзіны я ўсё яшчэ думаў пра гэты выпадак, калі раптам у вартоўню ўваходзіць прыдзвернік, увесь задыханы, з жахам на твары. Уваходзіць і кажа, што ў вялікім цыгарным цэху забілі жанчыну і што трэба паслаць туды варту. Вахмістр кажа мне ўзяць двух чалавек і пайсці паглядзець, што там здарылася. Я бяру двух чалавек і іду. Уявіце сабе, пане, я ўваходжу ў залу і бачу спачатку тры сотні жанчын у адных кашулях ці блізка да таго, усе крычаць, выюць, махаюць рукамі, стаіць такі гармідар — грому Божага не пачуеш. У адным баку ляжыць адна дагары капытамі, уся ў крыві, на твары крыж-накрыж свежыя раны ад нажа. Насупраць параненай, ля якой завіхаліся больш дасведчаныя, я ўбачыў Кармэн, яе трымалі пяць ці шэсць кабецін. Параненая крычала: «Спавядальніка! Спавядальніка! Я паміраю!» Кармэн маўчала, сцяўшы зубы, і круціла вачыма, як хамелеон. «Што здарылася?» — спытаўся я. Я ледзь дабраў ладу, бо работніцы гаварылі ўсе разам. Як выявілася, параненая жанчына выхвалялася, што мае грошай у кішэні, каб купіць на Трыянскім рынку асла. «Во, а мятлы табе ўжо мала, каб ездзіць»,— кажа ёй языкатая Кармэн. Тая, абражаная гэтай заўвагай, якая, відаць, вельмі трапна пацэліла, адказала, што яна не надта знаецца на мётлах, бо не мае гонару быць ні цыганкай, ні д'яблавай хрэсніцай, але панна Кармэнсіта хутка пазнаёміцца з яе аслом, калі пан карэхідор павядзе яе на прагулку з двума лёкаямі ззаду, каб адганяць мух. «Ну чакай, зараз зраблю табе на шчоках вадапой для мух, намалюю на твары шахматную дошку». І тады — раз-раз — нажом, якім адразала кончыкі цыгар, малюе ёй на твары крыж святога Андрэя.

Справа была ясная. Я ўзяў Кармэн за руку і кажу пачціва: «Сястрычка, ідзіце за мной». Яна паглядзела на мяне, быццам пазнаўшы, але адказала пакорліва: «Ха-

дзем. Дзе мая мантылья?» І яна накінула мантылью на галаву так, што было відно толькі адно яе вялікае вока, і пайшла за маімі людзьмі, рахманая, як авечка. Калі мы прыйшлі ў вартоўню, вахмістр сказаў, што справа сур'ёзная і што трэба весці яе ў турму. Весці яе зноў мусіў я. З бакоў яе трымалі два драгуны, а я крочыў ззаду, як і належыць брыгадзіру ў падобных выпадках. Мы накіраваліся ў горад. Спачатку цыганка маўчала. Але на Змяінай вуліцы — вы яе ведаеце, такая звілістая, нездарма завецца Змяінай — яна спачатку адхінае мантылью на плечы, каб паказаць мне свой вабны тварык, і, павярнуўшыся да мяне, наколькі было магчыма, кажа:

— Пан афіцэр, куды вы мяне ведзяце?

— У турму, дзіцятка,— адказваю я як мага ласкавей, як і павінен гаварыць спраўны салдат з вязнем, тым болей з жанчынай.

— Авох! Што ж са мной будзе? Пан афіцэр, пашкадуйце мяне. Вы такі малады, такі добры! — пасля дадае шэптам: — Дайце мне ўцячы, я падарую вам кавалачак *бар лачы*, і вас будуць кахаць усе жанчыны.

*Бар лачы*, пане, гэта магнітны камень, з дапамогай якога, як уяўляюць цыгане, можна рабіць самыя розныя вядзьмарскія дзействы, трэба толькі ўмець ім карыстацца. Дайце выпіць жанчыне пару драбочкаў тоўчанага каменя ў шклянцы белага віна — і яна ваша. Я адказаў ёй як мага сур'ёзней:

— Няма калі зараз языком пляскаць, трэба ісці ў турму, такі загад, нічога не зробіш.

У нас, басконцаў, ёсць свой акцэнт, па якім нас лёгка можна адрозніць ад іспанцаў. Затое ж няма ніводнага з іх, хто мог хоць бы навучыцца казаць *baï, jaona* [1]. Таму Кармэн адразу здагадалася, што я родам з Правінцый. Ведаеце, пане, цыганы, у якіх няма сваёй краіны, заўсёды вандруюць і таму гавораць на ўсіх мовах, і большасць з іх адчувае сябе як дома ў Партугаліі, у Францыі, у Правінцыях, у Каталоніі, паўсюль. Нават з маўрамі і англічанамі яны дадуць рады дамовіцца. Кармэн даволі добра гаварыла па-басконску.

— *Laguna ene bihotsarena*, сардэчны мой дружа,— раптам сказала мне яна,— вы з нашых краёў?

Наша мова, пане, такая прыгожая, што мы міжволі ўздрыгваем, пачуўшы яе на чужыне...— ■ хацеў бы, каб мой спавядальнік быў з Правінцый,— дадаў бандыт.

---

[1] Так, пане *(аўт.)*.

Памаўчаўшы, ён працягваў:

— Я з Элісонда,— адказаў я ёй па-басконску, вельмі ўзрушаны, што пачуў родную мову.

— А я з Эчалара,— сказала яна. (Гэта ад нас за чатыры гадзіны хады.) — Цыганы ўзялі мяне з сабою і прывялі ў Севілью. Я працавала на фабрыцы, каб зарабіць грошай і вярнуцца ў Навару да маёй беднай маці, у якой, апроч мяне і маленькага *barratcea*[1] з дваццаццю сідравымі яблынямі, нічога няма! Ах, каб жа я была цяпер дома, пад белай гарою! Мяне абразілі, бо я нетутэйшая, не з гэтага краю ашуканцаў і гандляроў гнілымі апельсінамі; а гэтыя абадранкі ўз'еліся на мяне, бо я сказала ім, што іхнія севільскія самахвалы з іх нажамі ўсе разам не напалохалі б аднаго нашага хлопца ў сінім берэце і з *макілай* у руцэ. Сябра, даражэнькі, няўжо вы нічога не зробіце для зямлячкі?

Яна хлусіла, пане, яна хлусіла заўсёды. Не ведаю, ці за ўсё сваё жыццё гэтая дзеўка сказала хоць бы адно праўдзівае слова; але калі яна гаварыла, я ёй верыў, я нічога не мог з сабой зрабіць. Яна перакрыўлівала басконскія словы, а я верыў, што яна з Навары; ужо адны яе вочы, рот і колер скуры казалі, што яна цыганка. Але я зусім здурнеў, я нічога не заўважаў. Я думаў, што, калі б іспанцы насмеліліся сказаць нешта нядобрае пра маю краіну, я б распісаў ім твар, як толькі што гэта ўчыніла яна. Карацей кажучы, я быў нібы п'яны, я пачынаў казаць глупствы і быў ужо блізкі да таго, каб іх рабіць.

— Калі б я вас штурхнула і вы б упалі, зямляча,— зноў пачала яна казаць па-басконску,— дык гэтыя два кастыльскія рэкруты нізавошта б мяне не злавілі...

Божа, я забыўся пра загад, пра ўсё на свеце і сказаў ёй:

— Добра, сяброўка, зямлячка, паспрабуйце, і хай паможа вам Маці Божая Нагорная!

У той самы момант мы міналі адзін з вузкіх завулкаў, якіх так многа ў Севільі. Раптам Кармэн паварочваецца і штурхае кулаком мне ў грудзі. Я наўмысна падаю наўзнак. Яна ўраз пераскоквае праз мяне і кідаецца бегчы — толькі ногі замільгалі!.. Кажуць: басконскія ногі: а такіх, як у яе, трэба было яшчэ пашукаць... і хуткія, і прыгожыя. Тады я ўстаю, але бяру сваю піку[2] наперавес, каб закрыць праход, што спачатку мае таварышы на нейкі момант спыніліся.

---

[1] Агарод, сад *(аўт.)*.

[2] Уся іспанская кавалерыя, узброеная пікамі *(аўт.)*.

Пасля я сам кідаюся бегчы, яны за мной, але дзе ж ты яе зловіш! Не было чаго і спадзявацца — з нашымі шпорамі, з нашымі шаблямі і пікамі! Яна знікла хутчэй, чым я паспеў вам пра гэта расказаць. Дый усе вулічныя кумкі ёй дапамагалі, насміхаліся з нас, паказвалі нам не ў той бок. Пахадзіўшы яшчэ нейкі час сюды-туды, мы мусілі вярнуцца ў вартоўню без распіскі начальніка турмы.

Мае людзі, баючыся пакарання, сказалі, што Кармэн гаварыла са мною па-басконску; дый, кажучы праўду, не надта верылася, што нейкае дробнае дзяўчо магло так лёгка зваліць сваім кулачком гэткага дужага малойца. Нешта тут было няясна ці, хутчэй, наадварот, занадта ясна. Я здаў варту, мяне разжалавалі і пасадзілі на месяц у турму. Гэта было маё першае спагнанне ад часу, як я быў на службе. Бывайце, вахмістраўскія галуны, што былі так блізка!

Першыя дні ў турме я надта сумаваў. Запісаўшыся некалі ў салдаты, я ўяўляў сабе, што стану афіцэрам. Бо даслужыліся ж да генерал-капітанаў Лонга, Міна, мае землякі, Чапалангара, які быў «чорны», як Міна, і які, як і той, уцёк у вашу краіну; дык гэты Чапалангара быў палкоўнікам, і я гуляў у мяч разоў дваццаць з ягоным братам, гэткім жа бедаком, як і я. Цяпер жа, седзячы ў турме, я казаў сабе: «Увесь гэты час, што ты так беззаганна праслужыў, пайшоў на марна. Вось ты ўжо на дрэнным рахунку. Каб апраўдацца перад начальствам, прыйдзецца высільвацца ў дзесяць разоў болей, чым калі ты быў рэкрутам! І за што ж [redacted] пакараны? За нейкую махлярку-цыганку, якая насмяялася з мяне, а цяпер крадзе дзе-небудзь у зацішным куточку». Аднак я мімаволі ўвесь час думаў пра яе. Ці паверыце, пане, увесь час у мяне ўваччу былі яе ножкі ў падраных панчохах, якія так добра былі відны, калі яна ўцякала. Я глядзеў праз турэмныя краты на вуліцу, і сярод усіх жанчын, што міналі маё акно, я не бачыў ніводнай, якая магла б параўнацца з гэтай чортавай дзеўкай! І яшчэ, нязадольны стрымацца, я нюхаў кветку акацыі, якую яна мне кінула і якая, хоць і высахла, усё гэтак жа чароўна пахла. Калі ёсць вядзьмаркі на свеце, дык яна — першая!

Аднойчы ў камеру ўвайшоў вартаўнік і даў мне бохан алкальскага хлеба [1].

---

[1] Алкала дэ лос Панадэрас, мястэчка за два лье ад Севільі, дзе пякуць маленькі смачны хлеб. Лічыцца, што асаблівы смак гэтаму хлебу надае вада. Штодня вялікая яго колькасць прывозіцца на продаж у Севілью *(аўт.)*.

— Вазьміце,— сказаў ён,— гэта ад вашай стрыечнай сястры.

Я ўзяў хлеб, вельмі здзіўлены, бо ў мяне ў Севільі няма ніякай сястры. «Можа, нехта памыліўся»,— падумаў я, паглядзеўшы на хлеб. Але ён быў такі апетытны, так смачна пахнуў, што я, не надта задумваючыся, адкуль і каму гэты хлеб, вырашыў яго з'есці. Але калі я паспрабаваў яго разрэзаць, мой нож натыкнуўся на нешта цвёрдае. Я паглядзеў і ўбачыў маленькі напільнік, які паклалі ў цеста перад тым, як пячы. Разам з напільнікам я знайшоў залатую двухпіястравую манету. Няма ніякага сумнення, гэта быў падарунак ад Кармэн. Для людзей яе племені свабода значыць усё, і яны падпалілі б цэлы горад, каб толькі дня не праседзець у турме. Зрэшты, гэтая хітрунння добра ўсё прадугледзела, з гэтым хлебам мне было няцяжка абдурыць вартаўнікоў. За гадзіну я мог перапілаваць тонеським напільнікам самы тоўсты прэнт кратаў, а за два піястры я б выменяў у першага анучніка цывільную вопратку замест вайсковага шыняля. Вы згодзіцеся, што чалавек, які шмат разоў даставаў з гнёздаў арлянят у нашых крутых скалах, не будзе баяцца спусціцца на вуліцу з акна з вышыні меней за трыццаць стоп. Але я не збіраўся ўцякаць. У мяне яшчэ заставаўся салдацкі гонар, і дэзерціраваць здавалася мне вялікім злачынствам. Але ж мяне крануў гэты знак памяці. Калі сядзіш у турме, добра думаць, што на волі ёсць нехта, хто памятае пра цябе. Залатая манета мяне трошкі бянтэжыла, я быў бы рады яе аддаць. Але дзе мне знайсці майго пазыкоўца? Гэта здавалася мне няпростай справай.

Пасля цырымоніі разжалавання мне здавалася, што мае пакуты скончыліся. Але мне заставалася пераджыць яшчэ адно прыніжэнне: калі я выйшаў з турмы і вярнуўся на службу, мяне прызначылі ў варту простым салдатам. Вы не можаце сабе ўявіць, што адчувае ў такіх выпадках чалавек шляхетнае душы. Думаю, што я б лепш згадзіўся, каб мяне расстралялі. Прынамсі, тады ідзеш адзін перад сваім узводам, нешта такое адчуваеш, на цябе ўсе глядзяць.

Мяне паставілі на варце перад уваходам у дом палкоўніка. Палкоўнік быў малады і багаты, душа-хлопец, і любіў забаўляцца. У яго сабраліся ўсе маладыя афіцэры, шмат было і мяшчан, не бракавала і жанчын, як казалі, акторак. Мне ж здавалася, што ўвесь горад прызначыў спатканне каля яго дзвярэй, каб на мяне паглядзець. І вось пад'язджае палкоўнікава каламажка, у ёй сядзіць ягоны лёкай. І хто ж,

вы думаеце,з гэтай каламажкі выходзіць?.. Мая цыганачка. Гэтым разам вычапураная, як пава, уся ў золаце і стужках. Сукенка з бліскаўкамі, блакітныя чаравічкі таксама з бліскаўкамі, паўсюль кветкі. У руцэ яна трымае бубен. З ёй было яшчэ дзве цыганкі, маладая і старая. Іх заўсёды водзіць нейкая старая, [redacted] таксама стары з гітарай, таксама цыган, каб танчылі пад яго музыку. Вы ведаеце, што цяпер часта дзеля забавы запрашаюць цыганоў, каб яны скакалі *рамаліс*, гэта іх танец, а часта і для зусім іншых спраў.

Кармэн пазнала мяне, і мы абмяняліся позіркамі. Не ведаю, але ў тую хвілю мне хацелася праваліцца на сотню стоп пад зямлю.

— *Agur laguna*[1],— сказала яна.— Пан афіцэр, ты стаіш на варце, як нейкі рэкрут!

І, перш чым я знайшоў што адказаць, яна знікла за дзвярмі.

Уся кампанія сабралася ва ўнутраным дворыку, і, нягледзячы на тлум, я бачыў праз весніцы[2] амаль усё, што там адбывалася. Я чуў кастаньеты, бубен, смех і ўхвальныя воклічы. Часам я заўважаў яе, калі яна скакала са сваім бубнам. Пасля [redacted] чуў, як афіцэры казалі ёй такія рэчы, што мне кроў прылівала да твару. Што яна адказвала — гэтага я не чуў. І я думаю, што з таго самага дня я напраўду пакахаў яе, бо тры ці чатыры разы мне прыходзіла думка зайсці ў дворык і папратыкаць шабляй жываты ўсім гэтым лайдакам, што да яе заляцаліся. Мае пакуты доўжыліся добрую гадзіну, пасля цыганкі выйшлі і некуды паехалі на каламажцы. Кармэн, праходзячы каля мяне, паглядзела на мяне тымі сваімі вачмі і сказала ціха-ціха:

— Зямляк, хто любіць паесці добрай смажанай рыбы, ідзе ў Трыяну да Лільяса Пастыі.

Лёгкая, як козка, яна скочыла ў каламажку, фурман сцебануў мула, і ўся вясёлая хеўра паехала немаведама куды.

Як вы здагадваецеся, здаўшы варту, я пайшоў у Трыяну. Але спачатку я пагаліўся і прыбраўся, як на парад. Яна была

---

[1] Добры дзень, таварыш *(аўт.)*.

[2] Большасць дамоў у Севільі мае ўнутраны дворык, акружаны галерэяй. Там звычайна бавяць час улетку. Гэты дворык накрываецца палатном, якое паліваюць вадою ўдзень і здымаюць увечары. Брама, што вядзе на вуліцу, амаль заўсёды расчыненая, а праход у дворык канчаецца жалезнымі весніцамі вельмі дыхтоўнай работы *(аўт.)*.

ў старога гандляра смажанай рыбай Лільяса Пастыі, цыгана, чорнага, як маўр, да якога шмат мяшчан заходзіла паесці, асабліва ж, думаецца, пасля таго, як там знайшла сабе прытулак Кармэн.

— Лільяс,— сказала яна, як толькі мяне ўбачыла,— сёння я цэлы дзень буду занятая. А заўтра паглядзім [1]. Ну, зямляча, хадзем пагуляем.

Перад яго носам яна накінула мантылью, мы выйшлі на вуліцу і некуды пайшлі.

— Шаноўная панна,— звярнуўся я да яе,— я, відаць, мушу падзякаваць вам за падарунак, што вы прыслалі, калі я сядзеў у турме. Хлеб я з'еў, напільнік мне яшчэ спатрэбіцца, каб вастрыць піку, я пакіну яго як памяць пра вас. А грошы вазьміце назад.

— Во, глядзі! У яго засталіся грошы! — зайшлася яна смехам.— А урэшце, добра, бо ў мяне цяпер пустая кішэня. Але ж нічога, сабака, што бегае, з голаду не памрэ[2]. Хадзем наямося на ўсе грошы. Ты частуеш.

Мы вярнуліся ў Севілью. У пачатку Змяінай вуліцы яна купіла тузін апельсінаў, якія я загарнуў у хустку. Трохі далей яна яшчэ купіла хлеба, кілбасы, бутэльку мансанілы. Урэшце яна зайшла ў цукерню. Там яна кінула на стойку залатую манету, што я ёй аддаў, яшчэ адну, якую яна дастала з кішэні, а таксама колькі срэбных манет. Пасля яна загадала мне выкласці ўсё, што ў мяне было. Мне зрабілася вельмі сорамна, бо ў мяне была толькі адна песета і некалькі куартаў. Я думаў, яна зараз скупіць усю краму. Яна ўзяла ўсё самае прыгожае і самае дарагое, што толькі было, *емас*[3], *турон*[4], зацукраваную садавіну, наколькі хапіла грошай. Усё гэта я мусіў несці ў папяровых мяшэчках. Вы, можа, ведаеце вуліцу Кандылеха, дзе галава караля дона Пэдра Справядлівага[5]. Яна мусіла б навесці

---

[1] *Mañana serà otro dia* — іспанская прыказка *(аўт.)*
[2] *Chuquel sos pirela.*
*Cocal terela.*
Сабака, які ходзіць, костку знойдзе.— Цыганская прыказка *(аўт.)*.
[3] Зацукраваныя яечныя жаўткі *(аўт.)*.
[4] Гатунак нугі *(аўт.)*.
[5] Кароль дон Пэдра, якога мы называем *Люты* і якога каралева Ізабэла Каталічка называла заўсёды няйначай як *Справядлівы*, любіў вечарамі гуляць па вуліцах Севільі, шукаючы прыгодаў, як халіф Гарун-ар-Рашыд. Аднае ночы на ўскрайнай вуліцы ён пасварыўся з чалавекам, які спяваў сваёй даме серэнаду. Яны біліся, і ка-

мяне на сякія-такія развагі. Мы спыніліся на гэтай вуліцы перад адным старым домам. Яна ўвайшла ў вузкі праход і пастукала ў дзверы на першым паверсе. Нам адчыніла цыганка, сапраўдная служка сатаны. Кармэн сказала ёй некалькі слоў па-цыганску. Старая спачатку насупілася. Каб яе задобрыць, Кармэн дала ёй два апельсіны, жменьку цукерак і пачаставала яе віном. Пасля яна накрыла ёй плечы плашчом і вывела яе за дзверы, зачыніўшы іх пасля на драўляную засаўку. Як толькі мы засталіся адны, яна пачала скакаць і смяяцца, як ашалелая, спяваючы:

— Ты мой *ром*, я твая *ромі*[1].

А я стаяў пасярод пакоя, абвешаны ўсімі яе пакупкамі, і не ведаў, куды іх пакласці. Яна звaліла ўсё на дол, кінулася мне на шыю і сказала:

— Я плачу свае даўгі, я плачу свае даўгі! Такі закон у *калэс*![2]

Ах, пане, той дзень! Той дзень! Калі я пра яго згадваю, я забываюся на тое, што было пасля.

---

роль забіў закаханага кавалера. На звон шабляў з акна выглянула старая кабета і асвятліла відовішча маленькім ліхтаром, *candilejo,* які яна трымала ў руцэ. Трэба заначыць, што кароль дон Пэдра, зрэшты, спрытны і дужы, меў адну надта прыкметную хібу: калі ён ішоў, у яго вельмі моцна хрусцелі каленныя суставы. І старая па гэтым хробусце яго пазнала. Наступнага дня дзяжурны вейнтыкуатра склаў каралю рапарт. «Сір, гэтае ночы на такой а такой вуліцы быў шабельны двубой. Адзін з задзіракаў забіты.— Ці знайшлі вы забойцу? — Так, сір.— Чаму ён яшчэ не пакараны? — Сір, я чакаю вашага загаду.— Выконвайце закон». А незадоўга перад тым кароль абвясціў дэкрэт, згодна з якім кожнаму двубойцу мусіць быць сцятая галава, і галава гэтая мусіць быць выстаўлена на месцы бойкі. Вейнтыкуатра выкруціўся вельмі дасціпна. Было загадана адпілаваць галаву адной са статуй караля і выставіць яе ў нішы пасярэдзіне вуліцы, дзе адбылося забойства. Каралю і ўсім севільцам гэтае рашэнне вельмі спадабалася. Вуліца ўзяла назву ад ліхтара старой кабеты, адзінае сведкі здарэння.— Так кажа народнае паданне. Суніга расказвае гэтую гісторыю трохі інакай (Гл. *Anales de Sevilla*, t. II, p. 136). Што б там ні было, але ў Севільі дагэтуль ёсць вуліца Кандылеха, а на гэтай вуліцы ёсць каменны бюст, які лічыцца партрэтам дона Пэдра. На жаль, гэты бюст новы. Стары ў XVII стагоддзі пачаў ужо рассыпацца, і тагачасныя гарадскія ўлады вырашылі замяніць яго на той, які можна ўбачыць сёння *(аўт.)*.

[1] *Ром* — муж, *ромі* — жонка *(аўт.)*.

[2] *Кало*, ж. р. *калі*, мн. л. *калэс*. Даслоўна — чорны. Так называюць самі сябе цыганы *(аўт)*.

Бандыт хвілінку памаўчаў, пасля, запаліўшы цыгару, прадоўжыў:

— Мы прабавілі разам цэлы дзень, елі, пілі і ўсё астатняе. Наеўшыся цукерак, нібы шасцігадовае дзіця, яна ўкінула пару жменяў у збан з вадой, што належаў старой кабеце. «Гэта ёй будзе шэрбет»,— казала яна. Яна разбівала *емас*, кідаючы іх аб сцяну. «Гэта каб нам не назалялі мухі...» — казала яна. Якіх толькі глупстваў і выбрыкаў яна не вычварала! Я сказаў, што хачу паглядзець, як яна танчыць, але дзе ўзяць кастаньеты? Зараз яна бярэ адзіную талерку старой, разбівае яе на кавалкі, і вось яна ўжо скача рамаліс, шчоўкаючы фаянсавымі аскялепкамі гэтак жа спрытна, як бы ў яе былі кастаньеты з эбенавага дрэва або са слановай косці. Я вам клянуся, з гэтай дзяўчынай сумна не было. Настаў вечар, і я пачуў, як барабаны б'юць на вячэрнюю пераклічку.

— Мне трэба вярнуцца ў казарму,— сказаў я.

— У казарму? — перапытала яна з пагардай.— Ці ж ты раб, каб цябе вадзіць на ланцугу? Ты сапраўдная канарэйка, і ўборам, і норавам[1]. У цябе, папраўдзе, куранячае сэрца.

Я застаўся, прымірыўшыся ў душы з тым, што за гэта мне пагражае гаўптвахта. Раніцай першая пра расстанне загаварыла яна.

— Слухай, Хасэіта,— сказала яна.— Я ж табе заплаціла? Паводле нашага закона, я табе не была вінаватая, бо ты — *паільё*. Але ты прыгожы хлопец, і ты мне спадабаўся. Мы квітыя. Усяго добрага.

Я спытаўся, калі я яе ўбачу.

— Тады, калі ты трохі паразумнееш,— адказала яна, смеючыся. Пасля дадала сур'ёзным тонам:— Ведаеш, сынок, мне здаецца, я трошкі цябе кахаю. Але гэта ненадоўга. Сабака і воўк нядоўга ладзяць. Можа, калі б ты прыняў цыганскі закон, я захацела б стаць тваёй *ромі*. Але ўсё гэта глупства, гэта немагчыма. Ды што там, хлопча ты мой, ты яшчэ добра выкруціўся, павер мне. Ты сустрэў д'ябла, так, д'ябла. Ён не заўсёды чорны, і ён не скруціў табе карка. Я апранута ў воўну, але я не авечка[2]. Пастаў свечку сваёй *махары*[3], яна яе заслужыла. Ну, бывай. Не

---

[1] Іспанскія драгуны апрануты ў жоўтае *(аўт.)*.
[2] *Me dicas vriardà de jorpoy, bus ne sino braco* — цыганская прыказка *(аўт.)*.
[3] Святая — Прасвятая Дзева *(аўт.)*.

думай болей пра Кармэнсіту, а не, дык яна ажэніць цябе з удавой на драўляных нагах[1].

Сказаўшы гэта, яна адсунула засаўку, выйшла на вуліцу, захінулася ў мантылью і пайшла прэч.

Яна казала праўду. Лепш бы мне было не думаць пра яе. Але пасля таго дня на вуліцы Кандылеха я болей ні пра што думаць і не мог. Я бадзяўся цэлы дзень, спадзеючыся яе сустрэць. Я пытаўся пра яе ў старой і ў гандляра смажанай рыбай. Абое адказвалі, што яна выправілася ў *Лалора*[2],— так яны называюць Партугалію. Магчыма, яны казалі так, навучаныя Кармэн, і ў хуткім часе я даведаўся, што яны манілі. Праз пару тыдняў пасля таго дня на вуліцы Кандылеха, я стаяў на варце каля адной з гарадскіх брам. Недалёка ад брамы ў адным месцы гарадскі мур трохі абваліўся: удзень там працавалі, уначы там ставілі вартавога, каб не прайшлі кантрабандысты. Удзень я бачыў, як Лільяс Пастыя круціўся вакол вартоўні і гаманіў аб нечым з маімі таварышамі. Усе ведалі яго, а яшчэ больш — яго смажаную рыбу і піражкі. Ён падышоў да мяне і спытаўся, ці не чуў я што пра Кармэн.

— Не,— адказаў я.

— Ну дык пачуеце, дружа.

І ён не памыліўся. Уначы мяне паставілі ў варту каля пралому. Як толькі брыгадзір адышоўся, да мяне падышла нейкая жанчына. Сэрца падказвала мне, што гэта Кармэн. Усё ж я крыкнуў:

— Прэч! Праход забаронены!

— Ды ўжо не злуйцеся так,— сказала яна, даўшы сябе пазнаць.

— Як! Гэта вы, Кармэн!

— Так, зямляча. Ну-тка, пагаворым трошкі. Хочаш зарабіць дуро? Тут будуць ісці людзі з пакункамі. Прапусці іх.

— Не,— адказаў я.— Я мушу іх затрымаць. Такі загад.

— Загад, загад! На вуліцы Кандылеха ты не думаў пра загады.

— Ах! — уздыхнуў я, узрушаны гэтым успамінам.— Тады было дзеля чаго забыцца пра загад, але ж я не вазьму грошай ад кантрабандыстаў.

— Ну добра, калі ты не хочаш грошай, дык, можа, сходзім зноў паабедаць да старой Даратэі?

---

[1] Шыбеніца — удава апошняга павешанага *(аўт.)*.

[2] Чырвоная (зямля) *(аўт.)*.

— Не! — адказаў я, ледзь не здушаны намаганнем утрымацца.— Я не магу.

— Тады добра. Калі ты такі ўпарты, дык я ведаю, да каго звярнуцца. Я запрапаную твайму афіцэру схадзіць са мной да Даратэі. Ён, як відаць, добры хлопец і паставіць на варту малойца, які ўбачыць толькі тое, што трэба. Бывай, канарэйка. Я добра пасмяюся, калі выйдзе загад цябе павесіць.

Я меў слабасць яе аклікнуць і паабяцаў прапусціць хоць цэлы табар, калі будзе трэба, каб толькі я атрымаў адзіную плату, пра якую я марыў. Яна адразу ж паклялася, што стрымае слова ўжо заўтра, і пабегла папярэдзіць сваіх сяброў, якія былі побач. Іх было пяцёра, адзін з іх Пастыя, усе нагружаныя англійскімі таварамі. Кармэн пільнавала. Яна мусіла папярэдзіць кастаньетамі, як толькі ўбачыць патруль, але ў гэтым не было патрэбы. Кантрабандысты зрабілі сваю справу імгненна.

На другі дзень я пайшоў на вуліцу Кандылеха. Кармэн прымусіла сябе чакаць і прыйшла ў даволі злым гуморы.

— Я не люблю людзей, якіх трэба доўга прасіць,— сказала яна.— Першы раз ты зрабіў мне значна большую паслугу, не спадзеючыся на гэтым нешта зарабіць. А ўчора ты са мной таргаваўся. Не ведаю, нашто я прыйшла, бо я цябе болей не кахаю. Так што ідзі прэч адсюль, вось табе дуро за клопат.

Я ўжо амаль быў гатовы кінуць гэтую манету ёй у твар і ледзь стрымліваў сябе, каб не набіць яе. Паспрачаўшыся з ёй гадзіну, я выйшаў раз'юшаны. Нейкі час я бадзяўся па горадзе, сноўдаўся сюды-туды, як вар'ят, урэшце зайшоў у царкву і, схаваўшыся ў самы цёмны куток, заплакаў гарачымі слязьмі. І раптам я пачуў голас:

— Драконавы слёзы! Я б зрабіла з іх нагаворнае зелле.

Я падняў вочы і ўбачыў побач Кармэн.

— Што, зямляча, усё яшчэ крыўдуеце на мяне? — спыталася яна.— Відаць, я ўсё ж вас кахаю, бо ад часу, як вы пайшлі ад мяне, я не ведаю, што са мной робіцца. Ну, цяпер ужо я ў цябе пытаюся, ці не хочаш ты пайсці на вуліцу Кандылеха.

Так мы замірыліся. Але настрой у Кармэн пераменлівы, як надвор'е ў нашых краях. У нас у гарах навальніца ніколі не бывае так блізка, як калі свеціць яркае сонца. Яна паабяцала сустрэцца са мной у Даратэі і не прыйшла. А Даратэя зноў сказала мне, што яна паехала ў Лалора дзеля цыганскіх спраў.

Ведаючы з досведу, што рабіць у такіх выпадках, я шукаў Кармэн паўсюль, дзе яна магла быць, і дваццаць разоў на дзень праходзіў па вуліцы Кандылеха. Неяк увечары я быў у Даратэі, якую я ўжо амаль прылашчыў да сябе, частуючы яе час ад часу чаркай анісаўкі, калі раптам уваходзіць Кармэн, а з ёй малады мужчына, лейтэнант з нашага палка.

— Ідзі адсюль хутчэй,— кажа яна мне па-басконску.

Я скамянеў, апанаваны гневам.

— Што ты тут робіш? — спытаўся лейтэнант.— Пайшоў прэч!

Я стаяў як слуп і не мог ступіць кроку. Афіцэр, узлаваны, бачачы, што я не іду і што я не зняў нават сваю шапку, узяў мяне за каўнер і моцна страсянуў. Не ведаю, што я яму сказаў. Ён дастаў шпагу, і я таксама. Старая схапіла мяне за руку, і лейтэнант ударыў мне ў лоб — дагэтуль застаўся знак. Я адступіў, локцем адштурхнуў Даратэю, яна ўпала наўзнак. Лейтэнант кінуўся за мною, я нанёс удар у корпус, і шпага пратнула яму грудзі. Кармэн патушыла лямпу і сказала на сваёй мове Даратэі, каб тая ўцякала. Сам я выскачыў на вуліцу і пабег невядома куды. Мне здавалася, што за мною нехта бяжыць. Трошкі апрытомнеўшы, я ўбачыў, што Кармэн мяне не кінула.

— Дурная канарэйка! — сказала яна.— Ты ўмееш рабіць толькі глупствы. І казала ж я табе, што прынясу табе няшчасце. Нічога, на ўсё знойдзецца сродак, калі твая сяброўка — раманская фламандка [1]. Спачатку абвяжы галаву гэтай хусткай і дай мне свой бандалет. Пачакай мяне ў гэтым праходзе. Я вярнуся праз дзве хвіліны.

Яна знікла і хутка прынесла мне паласаты плашч, які яна невядома дзе знайшла. Яна загадала мне скінуць мундзір і надзець плашч паверх кашулі. Гэтак выстраены, з хусткай, якою яна абвязала маю рану на галаве, я быў зусім як валенсійскі селянін, як тыя, што прыходзяць у Севілью прадаваць *чуфавы* напой [2]. Пасля яна завяла мяне ў дом, падобны да Даратэінага, што хаваўся ў ціхай вуліцы. Яна і яшчэ адна цыганка абмылі мяне і перавязалі

---

[1] *Flamenca de Roma* — жаргонны зварот, так называюць цыганак. *Roma* тут значыць не Вечны Горад, а народ *ромі*, або *жанатыя людзі*, як завуць сябе цыганы. Першыя цыганы, відаць, прыйшлі ў Іспанію з Нідэрландаў, таму іх называюць *фламандцамі (аўт.)*.

[2] Корань у выглядзе цыбулін, з якога робяць даволі прыемны напой *(аўт.)*.

лепш, чым бы гэта зрабіў ваенны хірург, і напаілі мяне няведама чым. Урэшце мяне паклалі на матрас, і я заснуў.

Гэтыя жанчыны, відаць, падмяшалі мне ў пітво нейкага соннага зелля, бо я прачнуўся наступнага дня вельмі позна. У мяне была гарачка і страшна балела галава. Прайшло трохі часу, перш чым у памяці ўсплыло жахлівае здарэнне, удзельнікам якога я стаў днём раней. Перавязаўшы маю рану, Кармэн і яе сяброўка, што сядзелі абедзве на кукішках побач з маім матрасам, абмяняліся некалькімі словамі на *чыпе калы*, відаць, гэта было штосьці накшталт медыцынскай кансультацыі. Пасля абедзве запэўнілі мяне, што я хутка папраўлюся, але што трэба як найхутчэй пакінуць Севілью, бо калі мяне тут зловяць, дык абавязкова расстраляюць.

— Мой хлопча,— сказала мне Кармэн,— табе трэба нешта рабіць. Цяпер, калі кароль болей не корміць цябе рысам і сухой траскай [1], табе трэба думаць, як зарабляць на жыццё. Ты занадта дурны, каб красці *à pastesas* [2], але ты дужы і спрытны; калі ты да таго ж і смелы, дык ідзі на ўзбярэжжа і займіся кантрабандай. Ці ж я не абяцала, што цябе павесяць? Гэта лепш, чым быць расстраляным. Зрэшты, калі ты здолееш добра ўзяцца за справу, ты будзеш жыць, як князь, пакуль міньёны [3] і берагавая варта не схопяць цябе за каўнер.

У такім вось прывабным святле гэтая д'яблава дзеўка паказала мне новую кар'еру, якую яна мне прарочыла. І праўда, гэта было адзінае, што мне заставалася цяпер, калі мне пагражала пакаранне смерцю. І што ж, пане, яна намовіла мяне без вялікіх цяжкасцяў. Мне здавалася, што гэтае рызыкоўнае і бунтарскае жыццё яшчэ цясней злучыць мяне з ёй. Я лічыў, што цяпер майму каханню нічога не будзе пагражаць. Я часта чуў расказы пра кантрабандыстаў, якія ездзяць па Андалусіі на добрым кані з мушкетонам у руцэ і з каханкай ззаду ў сядле. Я ўжо ўяўляў сабе, як я скачу праз даліны і горы з мілай цыганачкай за спінай. Калі я казаў ёй пра гэта, яна памірала ад смеху і казала мне, што няма нічога прыгажэйшага, чым правесці ноч на прывале, калі кожны ром уводзіць сваю ромі пад невялічкі намёт, складзены з трох абручоў, накрытых коўдрай.

— Калі я завязу цябе ў горы,— казаў я ёй,— я буду

---

[1] Звычайны харч іспанскага салдата *(аўт.)*.
[2] *Ustilar à pastesas* — красці спрытна, рабаваць без гвалту *(аўт.)*.
[3] Від наёмнай паліцыі *(аўт.)*.

спакойны за цябе! Там мне не прыйдзецца дзяліць цябе з нейкім лейтэнантам.

— Ах, дык ты раўнівы,— адказала яна.— Тым горш для цябе. Няўжо ты настолькі дурны? Ці ж ты не бачыш, што я цябе кахаю, бо ніколі не брала з цябе грошай?

Калі яна так казала, мне хацелася яе задушыць.

Карацей кажучы, пане, Кармэн знайшла мне цывільную вопратку, у якой я выйшаў з Севільі нікім не пазнаны. Я пайшоў у Хэрэс з лістом ад Пастыі да гандляра анісаўкай, у якога збіраліся кантрабандысты. Мяне прадставілі гэтым людзям, і іх верхавод, званы Данкайрэ, прыняў мяне ў банду. Мы рушылі ў Гаўсін, дзе я знайшоў Кармэн, якая прызначыла мне там спатканне. У нашых паходах яна была нам за шпіёна, і лепшага за яе ў гэтай справе ў свеце не было. Яна вярнулася з Гібралтара і ўжо дамовілася з адным суднаўладальнікам наконт пагрузкі англійскіх тавараў, якія мы меліся пераняць на беразе. Мы мусілі чакаць іх каля Эстэпоны, пасля схавалі частку тавару ў гарах і, узяўшы астатняе, накіраваліся ў Ронду. Кармэн ужо чакала нас там. Яна ж і паведаміла нам, калі будзе лепей увайсці ў горад. Гэтая першая выправа і некалькі наступных былі шчаслівыя. Жыццё кантрабандыста падабалася мне болей, чым салдацкае, я рабіў Кармэн падарункі. У мяне былі грошы і каханка. Сумленне мяне не мучыла, бо, як кажуць цыганы, прыемная кароста не свярбіць[1]. Паўсюль нас прымалі зычліва, таварышы мае ставіліся да мяне добра, нават з пэўнай павагай. Прычына была ў тым, што я забіў чалавека, а сярод іх былі і такія, хто не меў на сумленні такіх подзвігаў. Але найбольш у маім новым жыцці мне было даспадобы тое, што я часта бачыў Кармэн. Яна была больш прыязная да мяне, чым калі-небудзь раней. Аднак перад таварышамі Кармэн старалася не паказваць, што яна мая каханка, і нават прымусіла мяне паклясціся ўсімі клятвамі, што я нічога пра яе не скажу. Я быў такі слабы перад гэтым стварэннем, што падпарадкоўваўся любым яе капрызам. Зрэшты, тады ўпершыню яна здалася мне сціплай, сумленнай жанчынай, і я быў такі недалёкі, што паверыў, быццам яна і ўправду кінула свае колішнія звычкі.

Наша банда складалася з васьмі — дзесяці чалавек, але збіралася разам толькі ў вырашальныя моманты. Звычайна ж мы дзейнічалі ў гарадах і вёсках па двое ці па трое.

---

[1] *Sarapia sat pesquital ne punzava* (аўт.).

Кожны з нас удаваў з сябе рамесніка: гэты быў бляхаром, той — перакупнікам коней, а я быў галантарэйнікам, але не надта паказваўся ў людных месцах з-за маёй севільскай справы. Аднаго дня ці, дакладней сказаць, аднае ночы мы меліся сустрэцца пад Вэхерам. Данкайрэ і я прыйшлі туды раней за іншых. Ён, здавалася, быў у гуморы.

— Хутка да нас далучыцца яшчэ адзін таварыш,— сказаў ён.— Кармэн толькі што зладзіла адну са сваіх найудалейшых спраў. Яна дапамагла ўцячы свайму *рому*, які сядзеў у тарыфскай турме.

Я пачынаў ужо разумець цыганскую мову, на якой гаварылі амаль усе мае таварышы, і, пачуўшы слова «ром», здрыгануўся.

— Як! Яе муж! Дык яна замужам? — спытаўся я ў верхавода.

— Замужам,— адказаў ён,— за Гарсіям Крывым, гэткім жа хітрым цыганом, як і яна сама. Бедны хлопец быў на катарзе. Кармэн здолела так затлуміць галаву турэмнаму лекару, што дамаглася, каб ён вызваліў яе *рома*. Ах, гэтая дзеўка не мае цаны. Два гады яна спрабавала яго вызваліць. Нічога не дапамагала, пакуль не памянялі турэмнага лекара. А з гэтым, відаць, яна хутка здолела дамовіцца.

Уяўляеце сабе, як прыемна было мне пачуць гэтую навіну. Неўзабаве я ўбачыў Гарсію Крывога. Гэта была найбрыдчэйшая пачвара, якая толькі нарадзілася сярод цыганоў, чорны скурай і чорны душою. Гэта быў самы страшны злачынца, якога я толькі сустракаў у жыцці. Кармэн прыйшла з ім, і калі яна называла яго сваім *ромам* пры мне, трэба было бачыць, якія яна рабіла вочы, якія строіла грымасы, калі Гарсія адварочваўся. Я абураўся і не гаварыў з ёю ўсю ноч. Раніцай мы пагрузілі нашыя пакункі і ўжо рушылі ў дарогу, калі заўважылі, што за намі скача тузін коннікаў. На гэтых андалускіх самахвалаў, якія ўсіх білі і рэзалі толькі на словах, цяпер шкада было глядзець. Узнялася паніка, і ўсе кінуліся наўцёкі. Данкайрэ, Гарсія, прыгожы хлопец з Эсіхі, якога звалі Рэмендада, і Кармэн не разгубіліся. Іншыя ж пакідалі сваіх мулаў і пахаваліся ў яры, дзе не маглі праехаць коні. Сваю жывёлу мы ўжо не маглі ўратаваць і таму хутка разгрузілі самае каштоўнае з нашай пажывы і закінулі ўсё гэта сабе на плечы. Пасля мы паспрабавалі ўцячы праз скалы па самых крутых схілах. Мы кідалі нашыя пакункі наперад і ляцелі як маглі за імі, слізгаючы

на пятах. А супрацiўнiкi ўвесь час палiлi па нас з мушкетонаў. Тады я ўпершыню пачуў, як свiшчуць кулi, i гэта не надта мяне ўразiла. Калi на вас глядзiць жанчына, дык i памерцi не страшна. Мы засталiся цэлыя ўсе, апроч небаракi Рэмендада, якому куля трапiла ў спiну. Я скiнуў сваю ношу i паспрабаваў яго падняць.

— Вар'ят! — закрычаў на мяне Гарсiя.— Прыкончы ты гэтае падла i не згубi панчохi.

— Кiнь яго! — закрычала Кармэн.

Я стамiўся i мусiў пакласцi яго на хвiлiну пад выступам скалы. Падышоў Гарсiя i разрадзiў мушкетон яму ў галаву.

— Хай цяпер хто паспрабуе яго пазнаць,— сказаў ён, паглядзеўшы ў твар, разарваны на шматкi дванаццаццю кулямi.

Вось, пане, такiм вясёлым жыццём я i жыў. Увечары мы схавалiся ў гушчары, змардаваныя стомай, галодныя, без ежы, без нашых мулаў з таварам. I што ж зрабiў гэты вылюдак Гарсiя? Ён дастаў з кiшэнi карты i пачаў гуляць з Данкайрэ, запалiўшы невялiчкi агеньчык. Я тым часам ляжаў, глядзеў на зоркi, думаў пра Рэмендада i казаў сабе, што так хацеў бы быць на яго месцы. Кармэн сядзела побач са мною, час ад часу бразгала кастаньетамi i нешта цiхенька спявала. Пасля, нахiлiўшыся, быццам каб сказаць мне нешта на вуха, яна цалавала мяне амаль гвалтам, i так было разы два цi тры.

— Ты д'ябал,— казаў я ёй.

— Так,— адказвала мне яна.

Адпачыўшы пару гадзiн, яна пайшла ў Гаўсiн, i назаўтра ранiцою нейкi пастушок прынёс нам хлеба. Мы заставалiся на месцы цэлы дзень, а ўначы падышлi да Гаўсiна. Мы чакалi вестак ад Кармэн. Але iх не было. Калi зноў настаў дзень, мы ўбачылi мулаў з паганятым. Мулы везлi прыгожа ўбраную жанчыну з парасонам i дзяўчынку, вiдаць, прыслужнiцу.

Гарсiя сказаў:

— Святы Мiкалай шле нам двух мулаў i дзве жанчыны. Лепш бы ён паслаў чатырох мулаў. Ну, нiчога, прыдасца i так.

Ён узяў мушкетон, спусцiўся да дарогi i схаваўся ў гушчары. Мы, Данкайрэ i я, сядзелi непадалёк i сачылi за iм. Калi яны пад'ехалi блiжэй, мы выйшлi са сховiшча i крыкнулi, каб паганяты спынiў мулаў. Убачыўшы нас, жанчына, замест таго каб спалохацца аднаго нашага выгляду, залiлася смехам.

— Га! Гэтыя *лільіпэндзі* прынялі мяне за *эраньі*![1]

Гэта была Кармэн, так пераапранутая, што, калі б яна гаварыла на іншай мове, я б ніколі яе не пазнаў. Яна саскочыла з мула і нейкі час шапталася з Данкайрэ і Гарсіям, пасля сказала мне:

— Гэй, канарэйка, мы яшчэ ўбачымся, пакуль цябе не павесілі. Я еду ў Гібралтар дзеля цыганскіх спраў. Хутка вы пра мяне пачуеце.

І мы рассталіся, але спачатку яна паказала нам месца, дзе мы маглі хавацца некалькі дзён. Гэтая дзяўчына была для нашай банды сапраўдным анёлам-ахоўнікам. Хутка яна даслала нам трохі грошай і вестку, якая была нам даражэйшая за грошы: у такі і такі дзень два англійскія мілорды будуць ехаць з Гібралтара ў Гранаду па такой і такой дарозе. Мы зразумелі без лішніх тлумачэнняў. У мілордаў знайшлося нямала залатых гіней. Гарсія хацеў іх забіць, але мы з Данкайрэ запярэчылі. Мы ўзялі ў іх толькі грошы і гадзіннікі, а таксама кашулі, якія былі нам вельмі патрэбныя.

Вось так, пане, робішся зброднікам, нават пра тое не думаючы. Спачатку прыгожая дзяўчына задурыць табе галаву, ты б'ешся за яе, здараецца няшчасце, ты мусіш ісці ў горы і незаўважна з кантрабандыста ператвараешся ў злодзея. Мы вырашылі, што пасля справы з мілордамі нам не варта заставацца ў ваколіцах Гібралтара, і мы схаваліся ў сьеру Ронда. Вы расказвалі мне пра Хасэ-Марыю. Дык вось, там я з ім і пазнаёміўся. Ён паўсюль вазіў з сабой сваю каханку. То была прыгожая дзяўчына, разумная, сціплая, пачцівая, ніколі не зманіць, а якая верная!.. Ён жа, наадварот, прыносіў ёй адныя няшчасці. Заўсёды цягаўся за кожнай спадніцай, увесь час папікаў яе, а часам вінаваціў яе ў здрадзе. Аднойчы нават ударыў яе нажом. А яна за ўсё гэта толькі яшчэ болей яго кахала. Вось такія яны, жанчыны, а асабліва андалускі. Гэтая ганарылася пісягом на руцэ і паказвала яго, як нешта надта прыгожае. І пасля, да ўсяго іншага, Хасэ-Марыя быў кепскі таварыш!.. Мы былі з ім разам у адной выправе, дык ён абладзіў усё так, што ўвесь дабытак дастаўся яму, а нам адно штурхалі і непрыемнасці. Але я прадоўжу маю гісторыю. Пра Кармэн не было больш нічога чуваць. Данкайрэ сказаў:

— Трэба, каб адзін з нас пайшоў у Гібралтар і даведаў-

---

[1] Гэтыя ёлупы прынялі мяне за пристойную жанчыну! *(аўт.)*

ся пра яе. Яна, відаць, падрыхтавала нейкую справу. Я б сам пайшоў, але мяне занадта добра ведаюць у Гібралтары.

Крывы сказаў:

— Мяне таксама ведаюць, бо я столькі разоў строіў жарты з ракаў![1] А з адным вокам мне вельмі цяжка прайсці, каб мяне не пазналі.

— Дык, значыць, пайду я? — сказаў я, рады ад адной думкі, што зноў убачу Кармэн.— Ну, што трэба рабіць?

Тыя кажуць мне:

— Можаш дабірацца морам або прайсці праз Сан-Роке, выбірай сам. А калі будзеш у Гібралтары, спытайся ў порце, дзе знайсці шакаладніцу, што завецца Ральёна. Калі ты яе знойдзеш, дык даведаешся ад яе, што там робіцца.

Было дамоўлена, што мы ўтрох пойдзем у сьеру пад Гаўсін, там я пакіну абодвух маіх кампаньёнаў і пайду ў Гібралтар як гандляр садавінай. У Рондзе адзін чалавек дастаў мне пашпарт, у Гаўсіне мне далі асла, я нагрузіў яго апельсінамі і дынямі і рушыў у дарогу. Прыехаўшы ў Гібралтар, я даведаўся, што Ральёну тут добра ведаюць, але што яна ўжо памерла або выправілася на *finibus terrae*[2], і яе знікненне, на маю думку, тлумачыла, чаму мы страцілі сувязь з Кармэн. Я паставіў асла ў стайню і, узяўшы апельсіны, пайшоў у горад, быццам каб іх прадаваць, але напраўдзе, каб паглядзець, ці не сустрэнецца мне хто знаёмы. Там багата швэндаецца рознай поскудзі з усяго свету, гэта Вавілонская вежа, не ступіш дзесяці крокаў, каб не пачуць за гэты час гэтулькі ж розных моваў. Бачыў я і людзей цыганскага племені, але не наважваўся ім адкрыцца, я правяраў іх, яны правяралі мяне. Мы здагадваліся, што мы злодзеі, але важна было ведаць, ці з адной мы банды. Прабадзяўшыся без толку два дні, я так нічога і не даведаўся ні пра Ральёну, ні пра Кармэн і, закупіўшы сёе-тое, ужо збіраўся вярнуцца да сваіх таварышаў, калі раптам, ідучы ўвечары па вуліцы, чую, як з акна мяне гукае жанчына: «Гэй, гандляр апельсінамі!..» Я паднімаю галаву і бачу: на балконе, абапершыся на парэнчы, стаіць Кармэн, а побач з ёй — афіцэр у чырвоным мундзіры, з залатымі эпалетамі, кучаравы, трымаецца, як вялікі пан. Што да яе, дык яна была ўбраная аж надта пышна: на плячах шаль, залаты грабянец у валасах, адзенне з тонкага шоўку. І яна, баламутка, усё тая

---

[1] Гэтак у Іспаніі называюць англічан за колер іх мундзіраў *(аўт.)*.

[2] На катаргу або да ўсіх д'яблаў *(аўт.)*.

самая, смяецца, аж лопаецца. Англічанін, крывячы іспанскія словы, загадаў мне падняцца, бо пані хоча апельсінаў, а Кармэн сказала мне па-басконску:

— Хадзі сюды і не здзіўляйся.

Дый сапраўды, мяне ўжо нічога не дзівіла, ад яе можна было чакаць усяго. Не ведаю, ці я больш узрадаваўся або засмуціўся, калі яе ўбачыў. Ля дзвярэй стаяў даўжэзны англійскі лёкай з напудраным тварам, ён правёў мяне ў цудоўную гасцёўню. Кармэн адразу сказала мне па-басконску:

— Ты не ведаеш ні слова па-іспанску, і мы з табой не знаёмыя.

Пасля яна звярнулася да англічаніна:

— Я ж вам казала, я адразу пазнала, што ён басконец, вы пачуеце, якая смешная ў яго гаворка. Які ў яго дурны выгляд, праўда? Як у ката, якога злавілі ў каморы.

— А ты,— сказаў я сваёй моваю,— ты падобна да бессаромнай круцелькі, і мне хочацца распісаць табе твар перад тваім кавалерам.

— Маім кавалерам! — кажа яна.— Во, дурны, ты сам да гэтага дадумаўся? Ты яшчэ дурнейшы, чым быў да нашых вечароў на вуліцы Кандылеха. Ці ж ты не бачыш, асёл ты гэткі, што я абладжваю цяпер цыганскія справы, і як удала! Гэты дом мой, ракавы гінеі будуць мае, я ваджу яго за нос, я завяду яго туды, адкуль ён ніколі не вернецца.

— А я,— кажу я ёй,— калі ты яшчэ будзеш на гэткі манер абладжваць свае цыганскія справы,— я зраблю так, што табе болей не захочацца.

— Ах, во як! Ці ж ты мой ром, каб мне загадваць? Крывы не мае нічога супраць, а чаго ты лезеш? Будзь задаволены хоць бы з таго, што ты адзіны, каго я называю «мой *мінчаро*»![1]

— Што ён кажа? — спытаўся англічанін.

— Ён кажа, што хоча піць і не адмовіўся б ад чаркі,— адказала Кармэн.

Яна ўпала на канапу і зайшлася смехам — так ёй спадабаўся яе пераклад.

О пане, калі яна смяялася, немагчыма было гаварыць сур'ёзна. Усе смяяліся разам з ёю. Гэты доўгі англічанін таксама засмяяўся, як дурань, і загадаў прынесці мне выпіць.

Пакуль я піў, яна сказала:

---

[1] Мой каханак ці, хутчэй, мой капрыз *(аўт.)*.

— Бачыш у яго на пальцы пярсцёнак? Хочаш, я табе яго падарую?

Я адказаў:

— Я б сам аддаў палец, каб сустрэцца з тваім мілордам у гарах і каб у кожнага ў руках была *макіла*.

— *Макіла?* Што гэта значыць? — спытаўся англічанін.

— *Макіла*,— адказала Кармэн, смеючыся,— гэта апельсін. Смешнае слова для апельсіна, праўда? Ён кажа, што хацеў бы пачаставаць вас *макілай*.

— Так? — узрадаваўся англічанін.— Добра! Тады прынясі яшчэ заўтра *макілаў*.

Пакуль мы гаварылі, увайшоў лёкай і сказаў, што вячэра гатовая. Англічанін устаў, даў мне піястр і падаў руку Кармэн, быццам яна не магла ісці адна. Кармэн, усё яшчэ смеючыся, сказала:

— Прабач, мой хлопча, але я не магу запрасіць цябе на вячэру. Але заўтра, як толькі ты пачуеш барабаны, што склікаюць на вайсковы агляд, прыходзь сюды з апельсінамі. Тут ты ўбачыш пакой, абсталяваны лепш, чым на вуліцы Кандылеха, і ты ўбачыш, ці я ўсё яшчэ тая Кармэнсіта. А пасля мы пагаворым пра цыганскія справы.

Я нічога не адказаў. Калі я выйшаў на вуліцу, англічанін крыкнуў мне:

— Прынясіце заўтра *макілаў*! — і зноў чуўся смех Кармэн.

Я пайшоў, не ведаючы, што рабіць, я не спаў усю ноч, а раніцай ■ быў так узлаваны на гэтую здрадніцу, што вырашыў паехаць з Гібралтара, не зайшоўшы яе пабачыць. Але як толькі пачуўся барабанны дробат, уся мая адвага знікла: я ўзяў апельсіны і пабег да Кармэн. Яе аканіцы былі прычыненыя, і я ўбачыў, як яна падпільноўвае мяне вялікім чорным вокам. Напудраны лёкай адразу мяне правёў. Кармэн адаслала яго з нейкім даручэннем, і як толькі мы засталіся адны, яна залілася сваім кракадзілавым рогатам і кінулася мне на шыю. Я ніколі не бачыў яе такой прыгожай. Убраная, як мадонна, напарфумаваная... мэбля абабітая шоўкам, вышываныя фіранкі... ах!.. і я стаю сярод гэтага — злодзей злодзеем.

— *Мінчаро!* — сказала Кармэн.— Мне хочацца ўсё тут разбіць, падпаліць дом і ўцячы ў сьеру.

І пачаліся пяшчоты і мілаванні!.. і смех!.. і яна танчыла і абрывала фальбоны з сукні: ніводная малпа ніколі так не скакала, не крывіла мызу, не штукарыла. Калі яна супакоілася і спаважнела, яна сказала:

— Слухай, пагаворым пра справы. Я хачу, каб ён звазіў мяне ў Ронду, у мяне там сястра-манашка... (Тут яна зноў засмяялася.) Мы будзем праязджаць у адным месцы, якое я табе пакажу. Вы нападзеце на яго і абдзярэце да ніткі! Лепш за ўсё было б яго прыбраць, але,— дадала яна з д'ябальскай усмешкай, якой яна часам усміхалася і пасля якой нікому ўжо не хацелася ўсміхацца,— ведаеш, што трэба зрабіць? Хай Крывы выйдзе першы. Вы наперад не лезьце — гэты рак смелы і спрытны, у яго добрыя пісталеты... Разумееш?..

Яе расказ абарваўся новым прыступам смеху, ад якога я здрыгануўся.

— Не,— сказаў я,— я ненавіджу Гарсію, але гэта мой таварыш. Можа, калі-небудзь я збаўлю цябе ад яго, але мы парахуемся так, як заведзена ў маёй краіне. Цыганом я стаў выпадкова, а што да некаторых спраў, дык я застануся назаўсёды шчырым наварцам, як кажуць людзі[1].

Яна сказала:

— Ты дурань, асёл, сапраўдны *паільё*. Ты як карлік, які лічыць сябе волатам, бо далёка плюе[2]. Ты мяне не кахаеш. Ідзі прэч.

Калі яна казала: «Ідзі прэч», я не мог ісці. Я паабяцаў вярнуцца да маіх таварышаў і чакаць англічаніна. Са свайго боку, яна паабяцала мне прыкінуцца хворай, пакуль яны не паедуць з Гібралтара ў Ронду. Я прабыў у Гібралтары яшчэ два дні. Ёй хапіла смеласці, пераапрануўшыся, прыйсці да мяне ў заезны двор. Я паехаў, у мяне таксама быў свой план. Я вярнуўся на прызначанае загадзя месца сустрэчы, ведаючы, дзе і калі будзе ехаць англічанін з Кармэн. На месцы мяне чакалі Данкайрэ і Гарсія. Мы начавалі ў лесе, развёўшы вогнішча з сасновых шышак, якія выдатна гарэлі. Я запрапанаваў Гарсію згуляць у карты. Ён згадзіўся. Пасярод другой партыі я сказаў, што ён махлюе. Ён зарагатаў. Я кінуў карты яму ў твар. Ён хацеў схапіць мушкетон, але я наступіў на яго нагой і сказаў: «Кажуць, ты ўмееш гуляць з нажом, як найўдалейшы малагскі зух, хочаш паспрабаваць са мной?» Данкайрэ спрабаваў нас разняць. Я пару разоў выцяў Гарсію кулаком. Злосць дадала яму адвагі, ён схапіў свой нож, я — свой. Мы сказалі Данкайрэ, каб ён адышоўся і не замінаў. Ён убачыў, што нас ужо нельга спы-

---

[1] *Navarro fino (аўт.).*

[2] *Or esorjlé de or narsichislé, sin chismar lachinguel.*— Цыганская прыказка: «Храбрасць карліка — плюнуць далёка» *(аўт.)*.

ніць, і адступіў. Гарсія ўжо выгнуўся, як кот, гатовы кінуцца на мыш. Ён стаяў, выставіўшы нож, трымаючы ў левай руцэ капялюш, каб адводзіць удары. Гэта іх андалуская прыхватка. Я стаў па-наварску: проста перад ім, левая рука ўгары, левая нага наперадзе, нож каля правага сцягна. Я адчуваў сябе мацнейшым за асілка. Ён кінуўся на мяне, як страла, я павярнуўся на левай назе, і ён ударыў у пустэчу, а я пацэліў яму ў горла, і нож зайшоў так далёка, што мая рука ўперлася яму ў бараду. Я павярнуў лязо так рэзка, што яно зламалася. Усё было скончана. Лязо вылецела з раны пад напорам крыві, якая палілася патокам таўшчынёй з руку. Ён упаў ніцма, як бервяно.

— Што ты зрабіў? — сказаў мне Данкайрэ.

— Слухай,— сказаў я яму,— мы не маглі жыць разам. Я кахаю Кармэн і хачу быць адзін. Зрэшты, Гарсія быў нягоднік, я яшчэ не забыўся, як ён абышоўся з няшчасным Рэмендада. Цяпер нас толькі двое, але мы добрыя хлопцы. Хочаш, будзем сябрамі на жыццё і на смерць?

Данкайрэ даў мне сваю руку. Гэта быў чалавек гадоў пяцідзесяці.

— Да д'ябла любошчы! — закрычаў ён.— Калі б ты папрасіў у яго Кармэн, ён прадаў бы табе яе за адзін піястр. Нас засталося двое, што мы будзем рабіць заўтра?

— Я ўсё зраблю сам,— адказаў я.— Цяпер мне напляваць на ўвесь свет.

Мы пахавалі Гарсію і перанеслі наш лагер на дзвесце крокаў далей. Назаўтра Кармэн і яе англічанін паказаліся на дарозе разам з двума паганятымі і лёкаем. Я сказаў Данкайрэ:

— Я займуся англічанінам. Напалохай астатніх, у іх няма зброі.

Англічанін не быў баязлівец. Калі б Кармэн не падштурхнула яму руку, ён бы мяне забіў. Карацей кажучы, таго дня я адваяваў Кармэн, і першае, што я ёй сказаў, было, што яна ўдава. Калі яна даведалася, як усё адбылося, яна сказала:

— Ты заўсёды застанешся *лільіпэндзі*. Гарсія павінен быў цябе забіць. Твая наварская пастава — глупства, ён адсылаў на той свет і спрытнейшых за цябе. Проста прыйшоў ягоны час. Прыйдзе і твой.

— І твой,— адказаў я,— калі ты не станеш мне сапраўднай *ромі*.

— Ну і хай сабе,— сказала яна.— Я не раз бачыла ў кававай гушчы, што мы скончым разам. Ат! Што будзе, тое й будзе!

І яна шчоўкнула кастаньетамі, як заўсёды, калі хацела прагнаць нейкую назольную думку.

Калі гаворыш пра сябе, забываешся на таго, хто слухае. Усе гэтыя падрабязнасці ўжо, пэўна, вас стамілі, але я хутка скончу. Гэткае наша жыццё цягнулася даволі доўга. Мы з Данкайрэ падабралі сабе некалькі таварышаў, больш надзейных за ранейшых, і займаліся кантрабандай. Часам таксама, прызнаюся шчыра, мы выходзілі на вялікую дарогу, але толькі ў пільнай патрэбе і калі мы не маглі зрабіць інакш. Дарэчы, мы не рабілі злога падарожнікам, а толькі забіралі ў іх грошы. Некалькі месяцаў я не мог паскардзіцца на Кармэн, яна, як і раней, была нам карысная ў нашых аперацыях, паведамляючы нам аб якой-небудзь выгоднай справе. Яна жыла то ў Малазе, то ў Кордаве, то ў Гранадзе, але варта мне было сказаць адно слова, і яна ўсё кідала і прыязджала да мяне на якую-небудзь забытую венту ці нават проста на прывал. І толькі аднаго разу, гэта было ў Малазе, яе паводзіны мяне трошкі ўстрывожылі. Я ведаў, што яна спыніла свой выбар на адным даволі багатым купцы, з якім яна, пэўна, збіралася паўтарыць гібралтарскі жарт. Як толькі Данкайрэ мяне не адгаворваў, я ўсё ж пайшоў у Малагу сярод белага дня. Я пашукаў Кармэн і хутка знайшоў яе. Між намі адбылася суровая і шчырая размова.

— Ведаеш,— сказала яна,— з таго часу, як ты па-сапраўднаму стаў маім *ромам*, я кахаю цябе менш, чым калі ты быў маім *мінчаро*. Я не хачу, каб мне назалялі і, тым болей, каб мною камандавалі. Я хачу быць свабоднай і рабіць, што мне падабаецца. Глядзі ж, не дражні маю цярплівасць. Калі ты мне абрыднеш, я знайду сабе добрага хлопца, які зробіць з табой тое самае, што ты зрабіў з Крывым.

Данкайрэ нас памірыў, але мы нагаварылі адно аднаму слоў, што аселі муццю ў душы, дый мы ўжо былі не тыя, што раней. Неўзабаве з намі здарылася няшчасце. На нас напалі вайскоўцы. Забілі Данкайрэ і двух маіх сяброў. Яшчэ двух схапілі. Я быў цяжка паранены, і, калі б не мой конік, я б застаўся ў руках у салдатаў. Змардаваны стомай, з куляй у баку, я схаваўся ў лесе з адзіным ацалелым таварышам. Злезшы з каня, я страціў прытомнасць і падумаў, што скану ў зарасніку, як падстрэлены заяц. Таварыш занёс мяне ў знаёмую нам пячору і пайшоў па Кармэн. Яна была ў Гранадзе і адразу прыехала. Два тыдні яна ні на хвіліну не адыходзіла ад мяне. Яна не зводзіла вачэй і даглядала мяне

з такім умельствам і ўвагай, як не даглядала ніводная жанчына за самым каханым чалавекам. Як толькі я быў здольны стаяць на нагах, яна пад вялікім сакрэтам прывезла мяне ў Гранаду. Цыганкі паўсюль умеюць знайсці надзейнае сховішча, і я правёў больш за шэсць тыдняў у доме пад самым носам у карэхідора, які мяне шукаў. Не адзін раз я бачыў у акно, як ён праходзіць міма. Урэшце я выздаравеў, але пакуль я ляжаў, я шмат думаў і вырашыў перамяніць сваё жыццё. Я прапанаваў Кармэн пакінуць Іспанію і паехаць у Новы Свет, каб пачаць там сумленнае жыццё. Яна пасмяялася з мяне.

— Мы не створаны на тое, каб садзіць капусту,— сказала яна,— наша доля — жыць за кошт *паільёс*. Дарэчы, я дамовілася з Натанам бэн-Ёсэфам з Гібралтара. У яго ёсць баваўняная тканіна, якая толькі і чакае, каб ты яе перавёз. Ён ведае, што ты жывы. Ён разлічвае на цябе. Што скажуць нашы супольнікі ў Гібралтары, калі ты не стрымаеш свайго слова?

Я паддаўся, даў сябе ўцягнуць і зноў заняўся сваім агідным рамяством.

Пакуль я хаваўся ў Гранадзе, там праводзілі бой быкоў, і Кармэн пайшла паглядзець. Вярнуўшыся, яна шмат гаварыла пра вельмі спрытнага пікадора, што зваўся Лукас. Яна ведала, як завуць яго каня, колькі каштуе яго вышываная куртка. Я не звярнуў на гэта ўвагі. Хуаніта, адзіны мой ацалелы таварыш, сказаў праз некалькі дзён, што бачыў Кармэн з Лукасам у гандляра на Сакаціне. Гэта мяне ўстрывожыла. Я спытаўся ў Кармэн, як і чаму яна пазнаёмілася з пікадорам.

— Гэта хлопец, з якім можна зрабіць адну справу. У рэчцы, што шуміць, ёсць або вада, або камяні[1]. Ён зарабіў за баі тысячу дзвесце рэалаў. Адно з двух: або трэба займець гэтыя грошы, або яго можна ўзяць у нашу банду, бо ён добры коннік і адважны хлопец. Сяго-таго з нашых забілі, і табе трэба ўзяць кагосьці замест іх. Вазьмі яго з сабой.

— Я не хачу ні ягоных грошай, ні ягонай асобы, і я забараняю табе з ім размаўляць,— адказаў я.

— Беражыся,— сказала яна,— калі мне забараняюць нешта рабіць, я раблю назло.

На шчасце, пікадор паехаў у Малагу, а я пачаў рыхтавацца да перапраўкі праз мяжу тканіны гібралтарскага

---

[1] *Len sos sonsi abela,*
*Pani o reblendani terela* — цыганская прыказка *(аўт.)*.

яўрэя. У мяне было шмат працы, у Кармэн таксама, і я забыўся пра Лукаса. Можа, і яна пра яго забылася, прынамсі на нейкі час. Якраз недзе пад той час, пане, я вас і сустрэў, спачатку каля Мантылы, пасля ў Кордаве. Не буду расказваць вам пра нашу апошнюю сустрэчу. Вы пра яе ведаеце больш за мяне. Кармэн украла ў вас гадзіннік. Яе спакушалі таксама вашыя грошы і асабліва пярсцёнак у вас на пальцы, які, як яна казала, мае чароўную сілу і вельмі ёй патрэбны. Мы пасварыліся, і я яе ўдарыў. Яна пабялела і заплакала. Я ўпершыню пабачыў, як яна плача, і гэта зрабіла на мяне жахлівае ўражанне. Я папрасіў у яе прабачэння, але яна дзьмулася на мяне ўвесь дзень, і, калі ■ ад'язджаў у Мантылью, яна не захацела мяне пацалаваць. Я быў вельмі засмучоны, але праз тры дні яна раптам прыехала да мяне. Яна смяялася і ледзь не скакала ад весялосці. Усё забылася, і мы выглядалі, як маладыя каханкі. На развітанне яна сказала:

— У Кордаве будзе фэст, я пайду на яго, высачу людзей, што будуць вяртацца адтуль з грашыма, і папярэджу цябе.

Я яе адпусціў. Застаўшыся адзін, я думаў пра гэты фэст і пра раптоўную змену настрою Кармэн. «Відаць, яна ўжо мне адпомсціла,— падумаў я,— бо прыйшла да мяне першая». Адзін селянін сказаў мне, што ў Кордаве будзе бой быкоў. І вось мая кроў кіпіць, я як апантаны еду туды. Мне паказалі Лукаса, і на лаве насупраць бар'ера я ўбачыў Кармэн. Мне дастаткова было хвіліну на яе паглядзець, каб упэўніцца ў слушнасці маіх намераў. Калі выпусцілі першага быка, Лукас, як я і спадзяваўся, пачаў строіць з сябе галантнага кавалера. Ён вырваў у быка какарду[1] і паднёс яе Кармэн, а тая тут жа прышпіліла яе да валасоў. Бык, відаць, вырашыў адпомсціць за мяне. Лукас з канём перакуліўся, і бык наваліўся на іх зверху. Я паглядзеў у бок Кармэн, яе ўжо не было на месцы. Я ніяк не мог выйсці і мусіў чакаць, пакуль не скончыцца бой. Тады я пайшоў у дом, які вы ведаеце, і праседзеў там увесь вечар і частку ночы. Каля другой гадзіны ўначы Кармэн вярнулася і, убачыўшы мяне, трошкі здзівілася.

— Хадзем са мной,— сказаў я.

— Ну, хадзем,— адказала яна.

---

[1] *La divisa*, завязаныя бантам стужкі, колер якіх азначае, з якой пашы ўзяты бык. Гэты бант чапляецца кручком да скуры быка, і верхам галантнасці лічыцца вырваць яго з жывога быка і падараваць жанчыне *(аўт.)*.

Я схадзіў па каня, пасадзіў яе ззаду, і рэшту ночы мы ехалі моўчкі. Калі развіднела, мы спыніліся на закінутай венце, непадалёк самотнай пустэльні. Там я сказаў Кармэн:

— Слухай, я ўсё забуду. Я ні пра што не буду табе нагадваць. Але пакляніся мне: ты паедзеш са мною ў Амерыку і там будзеш паводзіць сябе прыстойна.

— Не,— сказала яна сярдзіта,— я не хачу ў Амерыку. Мне і тут добра.

— Таму што тут Лукас. Але падумай добра, калі ён і ачуняе, дык усё роўна доўга не працягне. А зрэшты, што мне да яго? Я ўжо стаміўся забіваць тваіх каханкаў, я лепш заб'ю цябе.

Яна пільна паглядзела на мяне сваім дзікім позіркам і сказала:

— Я заўсёды думала, што ты мяне заб'еш. Перад тым як убачыць цябе ўпершыню, я сутыкнулася са святаром, калі выходзіла з дому. А сёння ўначы, калі мы выязджалі з Кордавы, ты нічога не бачыў? Заяц перабег дарогу пад нагамі ў каня. Такі ўжо лёс.

— Кармэнсіта,— спытаўся я,— ты болей мяне не кахаеш?

Яна нічога не адказала. Яна сядзела на посцілцы, склаўшы ногі, і крэсліла пальцам на зямлі нейкія рыскі.

— Кармэн, давай пачнем новае жыццё,— маліў я.— Давай паедзем куды-небудзь і не будзем расставацца ніколі. Ты ведаеш, недалёка адсюль, пад дубам у нас закапана сто дваццаць унцый... І пасля яшчэ нашы грошы захоўваюцца ў яўрэя бэн-Ёсэфа.

Яна ўсміхнулася і сказала:

— Спачатку я, пасля ты. Я ведала, што так мусіць быць.

— Падумай,— зноў пачаў я,— у мяне канчаецца цярплівасць і адвага. Вырашай, бо інакш вырашу я.

Я пакінуў яе адну і пайшоў прагуляцца да пустэльні. Там маліўся пустэльнік. Я пачакаў, пакуль ён скончыць. Я б і сам памаліўся, але не мог. Калі ён устаў, я падышоў да яго.

— Ойча,— сказаў я,— ці не маглі б вы памаліцца за таго, каму пагражае страшная небяспека?

— Я малюся за ўсіх гаротных,— адказаў ён.

— Ці не маглі б вы адслужыць імшу за збаўленне душы таго, хто, можа, неўзабаве прадстане перад сваім Творцам?

— Магу,— адказаў ён, не зводзячы з мяне вачэй.

У маім выглядзе, відаць, было нешта дзіўнае, і таму ён захацеў са мною пагаварыць.

— Здаецца, я вас ужо бачыў,— сказаў ён.

Я паклаў яму на лаву піястр.

— Калі вы адчытаеце імшу? — спытаўся я.

— Праз паўгадзіны. Сын тутэйшага шынкара прыйдзе мне прыслугоўваць. Скажыце мне, што мучыць ваша сумленне? Ці не хочаце вы паслухаць парадаў хрысціяніна?

Я ледзь не плакаў. Я сказаў, што яшчэ вярнуся, і пайшоў. Я лёг на траву і ляжаў, пакуль не пачуў звон. Тады я падышоў, але не заходзіў у капліцу. Калі імша была адслужана, я вярнуўся на венту. Я спадзяваўся, што Кармэн на месцы не будзе, яна магла сесці на майго каня і ўцячы... але яна была там, дзе я яе пакінуў. Яна не хацела, каб падумалі, што я яе спалохаў. Пакуль мяне не было, яна распарола край сукенкі і дастала адтуль волава. Цяпер яна сядзела перад сталом і разглядала ў місе з вадою кавалак волава, які яна перад тым расплавіла і кінула ў ваду. Яна была так занятая сваёй варажбою, што спачатку нават мяне не заўважыла. Яна то брала кавалачак волава і з сумам у вачах разглядала яго з усіх бакоў, то спявала адну са сваіх магічных песень, дзе згадваецца Марыя Падылья, каханка дона Пэдра, якая была, як кажуць, *Бары Кралысай*, вялікай цыганскай каралевай[1].

— Кармэн,— сказаў я ёй,— калі ласка, хадземце са мной.

Яна паднялася, кінула сваю місу, захінулася мантыльяй, нібы сабралася пайсці. Мне прывялі каня, яна села ў мяне за спінай, і мы паскакалі.

— Ну дык што, мая Кармэн,— спытаўся я, калі мы трохі ад'ехалі,— ты едзеш са мною, так?

— Я буду з табою да смерці, але я больш не буду з табой жыць.

Мы ехалі пустыннай цяснінай. Я спыніў каня.

— Тут? — спыталася яна і саскочыла на зямлю. Зняўшы мантылью, яна кінула яе пад ногі і замерла, падбочыўшыся і ўтаропіўшы ў мяне свой позірк.

— Ты хочаш мяне забіць, я бачу,— сказала яна,— так наканавана лёсам, але ты не змусіш мяне саступіць.

— Прашу цябе, перадумай. Паслухай мяне, я забыўся пра ўсё, што было. Аднак, ты ведаеш, гэта ты мяне загу-

---

[1] Марыю Падылью абвінавацілі ў тым, што яна зачаравала караля дона Пэдра. Паводле народнага падання, яна падаравала каралеве Бланцы Бурбонскай залаты пояс, які вачам зачараванага караля падаўся жывой змяёй. З тых часоў ён з агідай ставіўся да няшчаснай прынцэсы *(аўт.)*.

біла, праз цябе я стаў злодзеем і забойцам. Кармэн! Кармэн, дай мне цябе ўратаваць і самому ўратавацца з табою.

— Хасэ,— адказала яна,— ты просіш у мяне немагчымага. Я цябе болей не кахаю. А ты мяне ўсё яшчэ кахаеш і за гэта хочаш мяне забіць. Я б магла зноў табе зманіць, але не хачу. Паміж намі ўсё скончана. Як *ром* ты маеш права забіць сваю *ромі*, але Кармэн заўсёды будзе свабодная. Яна нарадзілася цыганкай, цыганкай і памрэ.

— Значыць, ты кахаеш Лукаса? — спытаўся я.

— Так, я кахала яго, як і цябе, нейкую хвіліну, можа, нават менш, чым цябе. Цяпер я не люблю нікога, я ненавіджу сябе за тое, што цябе кахала.

Я кінуўся ёй у ногі, я браў яе рукі і заліваў іх слязьмі. Я нагадваў ёй усе хвіліны шчасця, што мы правялі разам. Я абяцаў, што застануся бандытам, каб толькі ёй падабацца. Усё, пане, усё, я абяцаў ёй усё, каб толькі яна захацела зноў мяне пакахаць!

Яна сказала:

— Зноў пакахаць цябе я не магу. Жыць з табой я не хачу!

Я зайшоўся ад гневу і схапіў нож. Я б хацеў, каб яна спалохалася і прасіла ў мяне літасці, але гэта была не жанчына, а сам д'ябал.

— Прашу цябе апошні раз! — закрычаў я.— Застанься са мною!

— Не! Не! Не! — адказала яна, затупаўшы нагамі.

І яна зняла з пальца пярсцёнак, што я ёй падараваў, і кінула яго ў хмызняк.

Я ўдарыў яе два разы. Гэта быў нож Крывога, я ўзяў яго, калі мой зламаўся. Пасля другога ўдару яна ўпала, нават не крыкнуўшы. Я і дагэтуль бачу, як наяве, яе вялікія чорныя вочы, яе нязводны позірк. Пасля вочы прыцьмеліся і заплюшчыліся. Яшчэ добрую гадзіну я сядзеў перад трупам, прыгнечаны горам. Пасля я ўспомніў, як Кармэн часта казала мне, што хацела б, каб яе пахавалі ў лесе. Я выкапаў нажом магілу і паклаў яе туды. Я доўга шукаў яе пярсцёнак, урэшце знайшоў і паклаў у магілу побач з ёй разам з маленькім крыжыкам. Можа, і не трэба было гэтага рабіць. Пасля я скочыў на каня і паскакаў наўзгалоп у Кордаву, дзе здаўся на першай вартоўні. Я сказаў, што забіў Кармэн, але не захацеў гаварыць, дзе яна пахаваная. Пустэльнік быў святы чалавек. Ён памаліўся за яе! Ён адслужыў імшу за спачын яе душы... Беднае дзіця! *Калэс* вінаватыя, што так яе выхавалі.

# IV

Іспанія — адна з тых краін, дзе сёння яшчэ вельмі часта можна сустрэць гэтых вандроўнікаў, рассеяных па ўсёй Еўропе, вядомых пад імем *цыганы, Bohémiens, Gitanos, Gypsies, Zigeuner* і г. д. Большасць з іх засяляе ці, лепш сказаць, вядзе вандроўнае жыццё ў паўднёвых і ўсходніх правінцыях: Андалусіі, Эстрэмадуры, каралеўстве Мурсія, багата іх і ў Каталоніі. Каталонскія цыганы часта пераходзяць у Францыю. Іх можна сустрэць на ўсіх нашых паўднёвых кірмашах. Мужчыны звычайна гандлююць коньмі, лечаць жывёлу або стрыгуць мулаў. Да гэтых заняткаў часам дадаецца напраўка патэльняў і медзянога начыння, не кажучы пра кантрабанду і іншыя забароненыя промыслы. Жанчыны варожаць, жабруюць і прадаюць розныя лекі, часам бясшкодныя, а часам і не.

Знешнія рысы цыганоў лягчэй распазнаць, чым апісаць, і калі ўжо пабачыш аднаго, дык пасля пазнаеш асобіну гэтага племені з тысячы людзей. Аблічча, выраз твару — вось што асабліва адрознівае іх ад народаў, што насяляюць той самы край. Твар у іх вельмі смуглы, заўсёды цямнейшы, чым у людзей, сярод якіх яны жывуць. Адсюль і імя *калэс* — чорныя, якім яны сябе часта называюць[1]. Вочы скошаныя, прыгожага разрэзу, надта чорныя, прыцененыя доўгімі густымі веямі. Іх позірк можна параўнаць хіба што толькі з позіркам драпежнага звера. У ім адначасова відна адвага і баязлівасць, і ў гэтым даволі добра выяўляецца іх нацыянальны характар: яны хітрыя, дзёрзкія, але *з натуры баяцца, калі іх б'юць*, як Панург. Мужчыны збольшага самавітыя, зграбныя, спрытныя. Здаецца, я ніколі не бачыў ніводнага тоўстага цыгана. У Германіі цыганкі часта бываюць вельмі прыгожыя, а вось сярод іспанскіх *хітан* прыгажосць — рэдкая з'ява. Маладзенькія, яны могуць быць хоць і не прыгожыя, але прыемныя. Аднак, нарадзіўшы дзіця, яны робяцца проста агідныя. І мужчыны, і жанчыны неверагодна брудныя і неахайныя. Таму, хто ніколі не бачыў валасоў цыганскай кабеты, цяжка будзе іх сабе ўявіць, нават калі ён намалюе ў думках густыя патлы, самыя жорсткія, самыя тлустыя, самыя пыльныя. У некаторых вялікіх гарадах Андалусіі прыгажэйшыя

---

[1] Мне здалося, што нямецкія цыганы, хоць яны і разумеюць слова *Cales*, зусім не любяць, калі іх так называюць. Яны завуць сябе *Romanè tchavè (аўт.)*.

дзяўчаты трошкі болей сябе даглядаюць. Яны танчаць за грошы, і танцы гэтыя надта нагадваюць тыя, што ў нас забароненыя на карнавальных балах. Пан Бороў, англійскі місіянер, аўтар двух вельмі цікавых твораў пра іспанскіх цыганоў, якіх ён узяўся навярнуць у ісцінную веру за кошт Біблейскага таварыства, сцвярджае, што няма прыкладаў, каб *хітана* калі-небудзь мела хоць бы якую прыхільнасць да чужога яе племені чалавека. Мне здаецца, што аўтар значна перабольшыў, так усхваліўшы іх цнатлівасць. Па-першае, абсалютная іх большасць знаходзіцца ў становішчы Авідыевай брыдулі: *Casta quam nemo rogavit*[1]. Што да прыгажэйшых, дык яны, як і ўсе іспанкі, надта пераборлівыя ў выбары каханкаў. Ім трэба падабацца, іх трэба заслужыць. Пан Бороў прыводзіць як доказ іх прыстойнасці прыклад, які робіць гонар яго ўласнай прыстойнасці, а таксама наіўнасці. Адзін яго знаёмы, чалавек амаральны, марна прапанаваў некалькі унцый адной прыгожай *хітане*. Андалусіец, якому [redacted] расказаў гэту гісторыю, сказаў з пэўнасцю, што гэты амаральны чалавек меў бы больш поспеху, калі б паказаў ёй пару піястраў, і што прапанаваць цыганцы залатыя унцыі — гэткі ж няўдалы спосаб яе спакусіць, як паабяцаць мільён або два дзеўцы з заезнага двара. Як бы там ні было, аднак і папраўдзе цыганкі праяўляюць да сваіх мужоў незвычайную адданасць. Яны не баяцца ні небяспекі, ні нягодаў, каб толькі дапамагчы мужу, калі той трапляе ў цяжкае становішча. Адно з імёнаў, якім яны сябе называюць, *ромэ*, што значыць *сужонцы*, на маю думку, выяўляе павагу гэтага племені да малжонскага стану. А ўвогуле можна сказаць, што найвялікшай іх цнотай ёсць патрыятызм, калі можна гэтак назваць вернасць, якую яны праяўляюць у дачыненні да асобаў аднаго з імі паходжання, іх гатовасць дапамагаць адно аднаму, непарушная сакрэтнасць у іх цёмных справах. Зрэшты, ва ўсіх таямнічых або супрацьзаконных згуртаваннях можна заўважыць штосьці падобнае.

Некалькі месяцаў таму я наведаў цыганскі табар, што стаяў у Вагезах. У будане адной старой жанчыны, правадыркі племені, жыў смяротна хворы цыган чужога роду. Гэты чалавек не захацеў ляжаць у шпіталі, дзе за ім быў добры дагляд, і пайшоў адтуль, каб памерці сярод сваіх супляменнікаў. Вось ужо трынаццаць тыдняў ён меў прытулак у сваіх гасцінных гаспадароў, і абыходзіліся з ім

[1] Цнатлівая, якой ніхто не пажадаў *(лац.)*.

значна лепш, чым з сынамі і зяцьмі, што жылі ў тым самым доме. У яго была добрая пасцель з саломы і моху, даволі чыстая бялізна, тым часам як уся сям'я, адзінаццаць чалавек, спалі на дошках даўжынёю ў тры стапы. Гэта што тычыцца іх гасціннасці. Тая самая старая, гэтак добрая да свайго госця, казала мне ў прысутнасці хворага: *Singo, singo, homte hi mulo*. Скора, скора ён мусіць памерці. Урэшце, людзі гэтыя жывуць так убога, што вестка аб смерці зусім іх не страшыць.

Адметнай рысай характару цыганоў ёсць іх абыякавасць да пытанняў рэлігіі, і не таму, што яны скептыкі або вальнадумцы. Яны ніколі не былі бязбожнікамі. Наадварот, яны вызнаюць веру той краіны, у якой жывуць, але мяняюць веру, калі мяняюць радзіму. Не ведаюць яны і забабонаў, якія ў адсталых народаў замяняюць рэлігійныя пачуцці. Дый сапраўды, ці могуць быць забабоннымі людзі, якія часцей за ўсё жывуць з даверлівасці іншых? Аднак я заўважыў у іспанскіх цыганоў незвычайную боязь дакрануцца да мёртвага цела. Мала сярод іх знойдзецца такіх, хто б згадзіўся нават за грошы несці нябожчыка на могілкі.

Я ўжо казаў, што большасць цыганак займаецца варажбой. І робяць яны гэта даволі спраўна. Але асабліва вялікія прыбыткі ім прыносіць продаж розных магічных сродкаў і нагаворных зелляў. Яны не толькі трымаюць у сябе жабіныя лапкі, каб утрымліваць пераменлівыя сэрцы, або магнітны парашок, каб абудзіць каханне ў бяздушных. У разе патрэбы яны прамаўляюць страшныя заклёны, якія змушаюць д'ябла ім дапамагаць. Летась адна іспанка расказала мне такую гісторыю: аднойчы яна ішла вуліцай Алькала, засмучаная і задуменная. Цыганка, што сядзела на ўзбоччы, крыкнула ёй: «Гэй, прыгажуня, ваш каханак вам здрадзіў». Гэта была праўда. «Хочаце я вам яго вярну?» Можна зразумець, з якой радасцю была прынятая гэтая прапанова і які давер выклікала жанчына, якая з першага погляду адгадала ўсе сардэчныя тайны. Але ж нельга было займацца магічнымі дзействамі на самай людной вуліцы Мадрыда, і таму дамовіліся сустрэцца наступнага дня. «Няма нічога прасцейшага, як вярнуць нявернага да вашых ног,— сказала цыганка.— Ці ёсць у вас хустачка, шалік ці мантылья, якія ён вам падараваў?» Знайшлася шаўковая хустка. «Цяпер зашыйце ў ражок хусткі піястр. У другі ражок зашыйце паўпіястра; тут — песету, а тут — манету ў два рэалы. А пасярэдзіне трэба зашыць залатую манету. Лепш за ўсё дублон». Зашываецца дублон і ўсё астатняе.

«А цяпер дайце мне хустку, я пайду з ёй апоўначы на Кампа-Санта. Хадземце са мною, калі хочаце пабачыць нячыстую сілу. Абяцаю вам, што ўжо заўтра вы ўбачыце, каго кахаеце». Цыганка пайшла на Кампа-Санта адна, бо жанчына надта баялася нячысцікаў. А цяпер здагадайцеся самі, ці няшчасная пакінутая каханка бачыла пасля сваю хустку або свайго нявернага.

Нягледзячы на сваю галечу і гідкасць, цыганы карыстаюцца, аднак, пэўнай павагай сярод неадукаваных людзей і вельмі гэтым ганарацца. Яны лічаць сябе вышэйшай расай за свой розум і ад усёй душы пагарджаюць народам, які дае ім прытулак. «Паганцы такія дурныя,— казала мне адна цыганка ў Вагезах,— іх так проста абдурыць. Надоечы на вуліцы мяне паклікала сялянка, я іду да яе. Яе печ дыміць, і яна просіць, каб я яе адваражыла. Я спачатку прашу добры кавалак сала. Пасля мармычу на *рамані:* «Ты дурная,— дурная нарадзілася, дурная і памрэш...» Падышоўшы да дзвярэй, я сказала ёй на чыстай нямецкай мове: «Найлепшы спосаб зрабіць, каб печ не дыміла, гэта не паліць у ёй». І дай бог ногі».

Гісторыя цыганоў — усё яшчэ загадка. Дакладна вядома, што першыя іх гурты, вельмі нешматлікія, з'явіліся на ўсходзе Еўропы на пачатку пятнаццатага стагоддзя. Але немагчыма сказаць, ні адкуль яны прыйшлі, ні чаму яны прыйшлі ў Еўропу, і, што самае незвычайнае, невядома, як яны за такі малы тэрмін так шырока распладзіліся ў розных самых адлеглых краях. У саміх цыганоў не засталося ніякіх паданняў пра іх паходжанне, і калі большасць з іх гаворыць пра Егіпет як пра сваю першую радзіму, дык гэта проста байка, што ўзнікла і распаўсюдзілася ўжо вельмі даўно.

Большасць арыенталістаў, што вывучалі мову цыганоў, лічаць, што яны паходзяць з Індыі. І сапраўды, падобна на тое, што вялікую колькасць каранёў і граматычных формаў рамані можна сустрэць у мовах, што паходзяць ад санскрыту. Зразумела, што за час сваіх доўгіх вандраванняў цыганы пазычылі шмат іншамоўных слоў. Ва ўсіх цыганскіх дыялектах ёсць пэўная колькасць грэчаскіх слоў. Напрыклад: *cocal,* косць — ад κόκκαλον; *pétalli*, падкова — ад πέταλον; *cafi*, цвік — ад καρφί і г. д. Сёння ў цыганоў амаль столькі розных гаворак, колькі ходзіць паасобных гуртоў. Паўсюль яны гавораць на мове краіны, у якой жывуць, лягчэй, чым на сваёй роднай, якую яны ўжываюць толькі тады, калі трэба паразумецца ў прысут-

насці чужакоў. Калі параўнаць гаворку нямецкіх цыганоў з гаворкамі цыганоў іспанскіх, якія ўжо стагоддзямі не мелі між сабою зносін, можна знайсці вельмі шмат агульных слоў. Але першапачатковая мова паўсюль, хоць і ў рознай ступені, значна змянілася праз кантакт з больш развітымі мовамі, якімі гэтыя вандроўнікі былі вымушаныя карыстацца. Нямецкая мова, з аднаго боку, і іспанская — з другога, настолькі змянілі саму аснову *рамані*, што цыган са Шварцвальда не здолеў бы зразумець свайго андалусійскага брата, хоць ім было б дастаткова абмяняцца парай сказаў, каб згадзіцца, што яны гавораць абодва на дыялектах, што адгалінаваліся ад адной мовы. Некалькі найчасцей ужываных слоў будуць агульныя, відаць, для ўсіх дыялектаў. Так, ва ўсіх слоўніках, што мне давялося бачыць: *pani* значыць «вада», *manro* — «хлеб», *mâs* — «мяса», *lon* — «соль».

Лічэбнікі паўсюль амаль аднолькавыя. Нямецкі дыялект, на маю думку, значна чысцейшы за іспанскі, бо ён захаваў значную колькасць старажытных граматычных формаў, тым часам як іспанскія цыганы прынялі формы кастыльскае мовы. Аднак некалькі слоў складаюць выключэнне, што сведчыць пра даўнейшую агульнасць мовы. Мінулы час у нямецкім дыялекце ўтвараецца, калі дадаць суфікс *-ium* да формы загаднага ладу, якая заўсёды супадае з дзеяслоўнай асновай. Усе дзеясловы іспанскага *рамані* спрагаюцца паводле мадэлі кастыльскага першага спражэння. Ад неазначальнай формы *jamar*, есці, паводле правілаў, мы б мелі *jamé*, я з'еў, ад *lillar*, узяць, было б *lillé*, я ўзяў. Аднак некаторыя старыя цыганы кажуць: *jayon*, *lillon*. Я не ведаю іншых дзеясловаў, якія захавалі б гэтую архаічную форму.

Пахваляючыся гэтак маёй дэталёвай разазнанасцю ў мове *рамані*, я мушу адзначыць некалькі словаў французскага арго, якія нашы зладзеі запазычылі ад цыганоў. З *«Парыжскіх таямніцаў»* прыстойнае таварыства даведалася, што *chourin* значыць «нож». Гэта чыстая цыганская мова, *tchouri* — гэта адно са словаў, уласцівых усім дыялектам. Пан Відок называе каня *grès*, гэта яшчэ адно цыганскае слова: *gras*, *gre*, *graste*, *gris*. Дадайце сюды яшчэ слова *romanichel*, якім на парыжскім арго называюць цыганоў. Гэта перакручанае *romané tchave* — «цыганскія хлопцы». Але асабліва я ганаруся тым, што вывеў этымалогію слова *frimousse* — «твар, пыса», слова, што ўжываюць або ўжывалі за мае часы ўсе школьнікі. Заўважце спачатку,

што Удэн у сваім цікавым слоўніку пісаў у 1640 годзе — *firlimouse*. Дык вось, *firla, fila* на *рамані* значыць «твар», *mui* мае тое самае значэнне, гэта дакладны адпаведнік лацінскага *os*. Адзін цыган, што змагаецца за чысціню мовы, адразу зразумеў спалучэнне *firlamui*, і я лічу, што яно адпавядае духу яго мовы.

Гэтага дастаткова, каб даць чытачам «Кармэн» уяўленне аб маіх даследаваннях пра цыганскую мову. Дазволю сабе скончыць прыказкай вельмі тут дарэчнай: *En retudi panda nasti abela macha.* Як рот закрыць — муха не заляціць.

## КАРМЭН

Упершыню надрукавана ў «Revue des Deux Mondes» 1 кастрычніка 1845 года, у 1846 годзе выйшла асобнай кнігай разам з навеламі «Арсена Гіё» і «Абат Абэн».

С. 239. Эпіграф да навелы ўзяты з «Грэчаскай анталогіі» познегрэчаскага граматыста і паэта з Александрыі Палада (V ст. н. э.).

*Мунда* — горад у старажытнай Іспаніі, колішняя сталіца пуніцкіх бастулаў, паўднёваіспанскага племя карфагенскага паходжання. У 45 г. да н. э. Юлій Цэзар разбіў тут войскі Лабіена і двух сыноў Пампея — Гнея і Сэкста. Гэтая цяжкая перамога паклала канец грамадзянскім войнам.

*Герцаг Асунскі* (1579—1624) — іспанскі грамадскі дзеяч і калекцыянер.

С. 241. *...благія Гедэонавы ваяўнікі* — Ізраільскі ваявода Гедэон перад бітваю з суседнім племем мадыяніцянаў выпрабаваў сваіх воінаў, прымусіўшы іх напіцца з ракі. Тых, хто, стаўшы на калені, піў проста з ракі, ён адаслаў дадому як «благіх ваяўнікоў» (Кніга Суддзяў, VII, 5—7).

С. 244. *...Мілтанавага Сатану...*— Гаворка ідзе пра аднаго з персанажаў паэмы Джона Мілтана (1608—1674) «Страчаны рай».

С. 248. *Алькальд* — камендант горада, крэпасці, замка.

С. 249. *...купанне Дыяны і німфаў...*— Паводле антычнай міфалогіі, паляўнічы Актэон падгледзеў аднойчы, як багіня Дыяна купалася з німфамі. За гэта ён быў ператвораны разгневанай багіняй у аленя і разадраны сваімі паляўнічымі сабакамі.

*«...пад свеценню прыцемненай, што падае ад зорак...»* — цытата з трагедыі Карнэля «Сід» (дзея IV, з'ява 3).

С. 251. *Падрабязнасці можна знайсці ў Брантома.*— Мерымэ мае на ўвазе кнігу П'ера Брантома (1540—1614) «Галантныя дамы».

С. 253. *...у гэтай старадаўняй сталіцы мусульманскіх князёў.*—

У Сярэднявеччы Кордава была сталіцай арабскага халіфата ў Іспаніі.

С. 254. *...пад канстытуцыйным рэжымам...*— Канстытуцыйная манархія пасля доўгага змагання дэмакратычных сіл іспанскага грамадства была ўсталявана ў краіне ў 1836 годзе.

*...корошы маленкі повьешэне»...*— цытата з камедыі Мальера «Пан дэ Пурсаньяк» (дзея III, з'ява 3). Гэта гаворыць швейцарскі жаўнер, які перакрыўляе французскую мову.

С. 256. *Іголка* — затраўнік у стрэльбе.

С. 257. *...калі пан карэхідор павядзе яе на прагулку...*— Даўней у Іспаніі існавала гэткае пакаранне для жанчын лёгкіх паводзінаў і западозраных у вядзьмарстве: іх садзілі на асла і вазілі па горадзе, паперадзе ішоў карэхідор, а ззаду — стражнікі, што секлі караную дубцамі.

С. 260. *Лонга,* Франсіска (1783—1831) — іспанскі ваявода, што праславіўся падчас вайны з Напалеонам (1808—1813).

*Міна,* Франсіска (1784—1836) — іспанскі генерал, адзін з правадыроў ліберальнай апазіцыі абсалютысцкаму рэжыму Фердынанда VII.

*Чапалангара,* Хоакін дэ Пабла Антон (памёр 1830) — іспанскі ваявода-рэспубліканец, быў вымушаны эміграваць у 1823 годзе пасля задушэння іспанскай рэвалюцыі, у 1830 годзе вярнуўся на радзіму, паспрабаваў узняць паўстанне, быў схоплены і расстраляны.

*«Чорны».*— Так у Іспаніі называлі прыхільнікаў картэсаў (народнага парламента) у перыяд рэвалюцыі 1820 года.

С. 263. *Дон Пэдра* (1334—1369) — кароль Кастыліі, званы «Лютым» за жорсткую расправу з непакорлівымі феадаламі. Пра яго напісаў трагедыю Вальтэр, пісалі пра яго таксама Лопэ дэ Вэга і Кальдэрон. Мерымэ некалькі гадоў вывучаў яго дзейнасць і выдаў у 1848 годзе кнігу «Гісторыя Дона Пэдра I».

*Ізабэла Каталічка* (1451—1504) — каралева Кастыліі, за яе панаваннем завяршылася аб'яднанне Іспаніі.

*Суніга,* Дыега Ортыс (каля 1610—1680) — іспанскі гісторык, жыў і працаваў у Севільі, добра вывучыў яе гарадскія архівы.

С. 283. *Марыя Падылья* (каля 1330?—1361) — каханка караля Кастыліі дона Пэдра I, з якой ён пазнаёміўся у 1352 годзе.

*Бланка Бурбонская* (каля 1338—1361) — жонка караля Дона Пэдра I, дачка П'ера I, герцага Бурбонскага. Выйшла замуж у 1353 годзе, але муж яе кінуў: удзельнічала ў змове супраць яго, але была схоплена, увязнена і, відаць, атручана.

С. 286. *Бороў,* Джордж (1803—1881) — англійскі даследчык і вандроўнік, аўтар прац «Цыганы» (1841) і «Біблія ў Іспаніі» (1843), з якімі Мерымэ быў добра знаёмы.

*Біблейскае таварыства* — заснаваная ў 1649 годзе ў Лондане арганізацыя, якая займалася перакладам на жывыя мовы і распаўсюджваннем Бібліі.

*...у становішчы Авідыевай брыдулі...*— Далей ідзе цытата з «Мілосных элегій» Авідыя (кн. I, элегія VII, верш 43).

С. 289. *«Парыжскія таямніцы»* — папулярны раман французскага пісьменніка Эжэна Сю (1804—1857), выдадзены ў 1842—1843 гг.

*Відок,* Эжэн-Франсуа (1775—1857) — славуты авантурыст, у маладосці злодзей, пасля дэтэктыў і паліцэйскі агент. Аўтар «Мемуараў» (1826) і апісання жыцця парыжскага дна — «Сапраўдных таямніц Парыжа» (1844).

С. 290. *Удэн,* Антуан (памёр 1653) — лексікограф, выкладчык італьянскай мовы Людовіка XIV. Яго слоўнік выйшаў не ў 1640, а ў 1649 годзе.